PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 18 (2086) Год XLI Беласток 5 мая 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)



*А моладзь дзесьці ў горадзе гуляе...* Фота У. ЗАВАДСКАГА

Васіль Сакоўскі

## З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

*Край Беласточчы, мая родна староночка!*
*Мой лёс непарыўны з лёсам тваім.*
*Куды б ён мяне не загнаў, не закінуў,*
*Заўсёды святыняй ты будзеш у сэрцы маім.*
*Тут я нарадзіўся ў цяжкія годы,*
*Калі мой народ у няволі стагнаў,*
*Калі адбіралі апошні кусочак у нас хлеба,*
*Калі таргавалі верай нашых бацькоў...*
*Прайшлі, прагудзелі нам злыя часіны*
*Не вернуцца „Kresy" і „Северо-Западный край"!*
*А ненавісныя тэрміны „bydło", „скотина"*
*Заменены тэрмінам — „беларускі працоўны народ".*
*Тут кожны куточак мне блізкі, знаёмы,*
*Бо ўсюды жыве дарагі мой народ,*
*А ў раскіданых густа магілах*
*Спяць вечным сном продкі мае.*
*У родну зямельку ўраслі мы глыбока,*
*Бо сотні гадоў урасталі ў яе.*
*Шануйма ж яе, дарагія рабяты,*
*Бо гэта святая святых на гэтай грэшнай зямлі!*

Што мне вядома пра мінуўшчыну маёй сям'і, майго роду, маёй мясцовасці?

Не так ужо і многа. А і тое, што вядома, не заўсёды пацверджанае аўтарытэтнымі дакументамі. Хутчэй за ўсё, гэта фрагментарныя весткі пачутыя мною на працягу некароткага ўжо майго жыцця.

Мая родная вёска называецца Пілпкі. Яе назва выводзіцца, думаю, ад нейкага далёкага продка Піліпа ці Пілпаў. Яна невялікая і тыповая, традыцыйная, поўнасцю праваслаўная беларуская вёска.

Раскінута яна ўздоўж пакручастай рэчкі Локніцы, якая то прыбліжаецца да самых сялянскіх сядзіб, то зноў ад іх аддаляецца. Мела яна то плыткія месцы, то глыбокія тоні, якіх мы, дзеці, моцна баяліся і здалёк абміналі. (Тоняй у нас называецца глыбокае месца.) Некаторыя тоні мелі нават свае назвы. Найбольш глыбокай і тым самым слаўнай была Маркова тоня. Назву сваю займела яна ад Марка, якога сядзіба была якраз насупраць яе. Марка, канешне, ужо даўным-даўно няма, але жывуць на гэтым месцы яго сын Кузьма з двума сынамі і ўнукамі. Пахвальна, што ў гэтай павольна ўміраючай вёсцы іх сям'я, бадай, найбольш паўнакроўная, дынамічная, з трох пакаленняў. Гаспадарка ў іх таксама дагледжана.

Хаця рэчка наша невялікая, але наравістая. Часта набірала многа вады і магутна разлівалася. Тады лепей абмінай яе здалёк, бо з вялікай вадой жартаў мала. Хто не разумеў гэтага, мог нават жыццём сваім паплаціцца. І былі такія выпадкі, асабіста я помню некалькіх тапельцаў.

Калісьці вадзілася ў нашай рэчцы мноства рознай рыбы і ракаў. У цяжкія галодныя гады яны былі вялікай падтрымкай многім сем'ям. Яны іх самі спажывалі і прадавалі ў горадзе, дзе ахвотных на нашу рыбу было таксама многа. Рыба з нашай рэчкі была вельмі смачная, бо вада ў ёй была чыстая, халодная, крынічная. Крыніц уздоўж ракі было многа. З іх безупынна сцякала ў рэчку вада. Але гэта ўжо толькі гісторыя, бо з цягам часу гэтыя крыніцы павысыхалі, вады ў рэч-

*(працяг на стар. 8)*

Ганна Кандрацюк

## Панарама Дуброўскай гміны

Дуброва-Беластоцкая знаходзіцца ў 75-ці кіламетрах ад Беластока. З назвай мястэчка сугучны таксама герб горада — зялёны дуб на бел-чырвона-зялёным полі. Як апавяшчае легенда, у сярэдневякоўі расла тут магутная пушча, а над рэчкай Бобрай (Бебжай) цягнуліся непраходныя дрыгва і балоты. Дуброўшчына з'яўлялася паўночнай мяжой Яцвягіі, якой сляды сустракаем у назвах вёсак і урочышчаў па ўсёй Беласточчыне. На Дуброўшчыне, як нідзе, гэтыя назвы відавочныя: Ячна, Рагажайны, Сідра, Сідарка. У XVI стагоддзі Дуброўчыну пачалі насяляць асаднікі з Гарадзеншчыны. Тады былі заснаваны такія мясціны як Новы Двор, Серацёўцы, Хільмоны, Дуброва. Асадніцтва ішло таксама з мяжуючага ад захаду Мазоўша. Па сённяшні дзень Дуброўшчына з'яўляецца зямлёй польска-беларускага памежжа. Калі гаварыць пра гміну, нельга не ўпамянуць Ружанастоцкі манастыр з барочным касцёлам. Заснаваў яго род Тышкевічаў у XVII стагоддзі. Пабудова магутнага комплексу фінансавалася найбольшымі літоўскімі родамі. Цудоўная ікона Маці Божай прыцягвала многіх паломнікаў. Пасля скасавання царкоўнай уніі манастыр належаў праваслаўным. У пачатку XX ст. існавала тут школа для настаўнікаў прыцаркоўных школ.

У міжваенны перыяд у манастыр прыйшлі каталіцкія салезіяне, якія вялі тут гімназію для моладзі з усёй Польшчы. Была гэта адзіная сярэдняя школа на ўсёй Сакольшчыне. Сёння ў будынках Ружанастоцкага манастыра знаходзіцца школьны комплекс сельскагаспадарчых школ і эканамічны ліцэй.

Функцыянуе таксама каталіцкі касцёл, дарэчы, падняты папам Янам Паўлам II да рангу Менпай Базілікі Святыні Ружанастоцкай. Культ Ружанастоцкай Божай Маці прыцягвае ўсё больш паломнікаў. Праваслаўная капліца якраз у рамонце, а ў манастыры, дзе калісьці пражывалі праваслаўныя манашкі, знаходзіцца жаночы школьны інтэрнат.

Апрача сакральных помнікаў на Дуброўшчыне сустракаем цікавыя ветракі. Добра захаваўся фламандскі бетонны (круглы) вятрак (1928 г). Шматлікія тут таксама помнікі прыроды. Частку гміны займае Бебжанскі нацыянальны парк.

У сённяшняй Дуброве многа новых будоўляў. Хопіць прайсціся некалькімі вуліцамі ў цэнтры горада, каб заўважыць пабудовы новых дамоў, часта ў амерыканскім стылі.

— Маем шчасце, — гаворыць бурмістр горада **Вацлаў Цвіліх**, — бо нашы жыхары інвестуюць якраз у Дуброве.

Сапраўды, жыхары тут прадпрымальныя. Ва ўсёй Дуброве процьма магазінаў, аптовых складаў, прадпрыемстваў.

— На сённяшні дзень маем 575 гаспадарчых адзінак, — кажа бурмістр. — Палова з іх займаецца гандлем.

Найбольш вядомая фірма — суполка „Каліноўскі і Анімэкс", якая гандлюе з італьянцамі коньмі. Адной з самых прэстыжных мясцовых фірм з'яўляецца мясны камбінат братоў Шаставіцкіх. Іх мясныя прадукты прадаюцца ў Саколцы, Аўгуставе, Сувалках, Ліпску. Добра трымаюцца таксама былыя ПОМ і ГС. Яны ператрывалі не толькі цяжкія часы, але і, стаўшыся суполкамі, пабольшылі колькасць працаўнікоў.

У Дуброве дзейнічаюць два банкі.

— Усе нашы прадпрыемствы плацяць падаткі, — адзначае галава горада В. Цвіліх.

У горадзе і гміне вядуцца новыя інвестыцыі. Нядаўна закончылася пабудова ачышчальні і каналізацыі. Рамантуюцца дарогі. У недалёкай будучыні плануецца перабудова тэлефоннай сеткі.

Нягледзячы на гаспадарчы зрух, у гміне шмат беспрацоўных. Сярод 15-тысячнага насельніцтва складваюць яны 15%. Маладыя масава ўцякаюць у большыя гарады або на „Захад".

*(працяг на стар. 3)*

# Мы прачыталі

*Kiedy spoglądam na formację postkomunistyczną, która rządzi dzisiaj Polską, dwie cechy uderzają mnie w sposób szczególny: jej sprawność i cynizm. Dominuje aksjologiczna pustka działaczy, którzy przez długie lata płacili każdą cenę za osiąganie kolejnych szczebli w karierze. Honor, wolność, prawa człowieka — to były dla nich fanaberie inteligenckich salonów,* — піша Адам Міхнік.

*Gazeta Wyborcza, nr 83*

* * *

*Тое, што творыцца апошнім часам у палітычным, эканамічным і культурным жыцці Беларусі, выклікае, далікатна сказаўшы, недаўменне. Ну гляньце. Група рускіх адстаўных афіцэраў ды іншых пракамуністычных кар'ерыстаў, сабраўшыся вакол Лукашэнкі, дабралася да ўлады ў Менску і яўна вядзе Беларусь у Маскоўскую залежнасць. ...Нават у школах павыстаўлялі сталінска-бальшавіцкую сімволіку... Такога хамства, якое залівае сёння Беларусь, не дашукаецца ў іншых краінах свету.*

*Беларускі Дайджэст, н-р 3 (ЗША)*

* * *

*Bezrobotni z byłego PGR Wizna protestowali przeciwko przekształceniu ich kombinatu w więzienie. Przestali protestować, gdy zaproponowano im, by zostali w tym więzieniu strażnikami.*

*Polityka, nr 14*

* * *

*Два гады прэса лепіць з Лукашэнкі героя, „объединителя" славянскіх народаў. У самых моцных словах ужытых для характарыстыкі Лукашэнкі, заўсёды адчуваецца перабор, фальш. Бо ён не д'ябал, не монстр, і не культурны герой. Ён — марыянетка, заклікаsuccessfully адгучваць чужую палітыку. Чужую як на персанальным, так і на дзяржаўным узроўні.*

*Свабода, н-р 26*

* * *

*Мітынг — гэта акцыя, ініцыятарамі якой сталі палітыкі-банкруты. Тое, што прапануе Прэзідэнт Лукашэнка, прадыктавана жыццём, гісторыяй Беларусі і Расіі. Альтэрнатывы палітыцы прэзідэнта не існуе. Гэта разумеюць і арганізатары мітынгу. Адсюль і хамства, да якога яны вымушаны звярнуцца, як спосабу вядзення палітычнай барацьбы. Інашага ў іх няма. А народ разбярэцца. 85 працэнтаў выказалася за палітыку Прэзідэнта. Прэзідэнт толькі не ажыццяўляе, — заявіў намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта палкоўнік Уладзімір Замяталін.*

*Голас Радзімы, н-р 14*

* * *

*Polityka Łukaszenki sympatyzująca z faszyzmem i komunizmem może być tragiczna dla Białorusi.*

*Polityka, nr 15*

* * *

*Konflikty wewnętrzne w Rosji mogą wykorzystać Chiny, które już obecnie ostrzą sobie zęby na Tajwan. Gdyby — nie daj Boże — udało im się zająć całą Syberię, wybuchnie wielki konflikt. Trudno nie dostrzegać potęgi militarnej Chińskiej Republiki Ludowej,* — піша, заклапочаны лёсам Саюза Суверэнных Рэспублік, каментатар штомесячніка

*Czasopis, nr 4*

* * *

*W 1991 r. władze Białoruskiego Frontu Narodowego wystąpiły z ideą utworzenia wspólnoty bałtycko-czarnomorskiej. Zakładały, że wejdą do niej Estonia, Łotwa, Litwa, Ukraina. Dla Rzeczypospolitej rzecz jasna nie przewidziały miejsca. BNF nie szukał kontaktów z organizacjami działającymi w Polsce. Zaczął koordynować tylko swoją działalność z białoruskimi organizacjami Białostocczyzny, a szczególnie z Białoruskim Zjednoczeniem Demokratycznym utworzonym przez opozycjonistów reżymowo-komunistycznego BTSK. Nie jest wykluczone, że pod wpływem tej koordynacji BZD postanowiło kontynuować politykę dystansowania się od polskich środowisk solidarnościowych i w wyborach do Sejmu RP w 1991 r. wystawiło własną listę kandydatów, którzy po wejściu do parlamentu mieli prowadzić całkowicie samodzielną politykę. W rezultacie ponieśli klęskę, oddając na Białostocczyźnie pole komunistom i tzw. Komitetowi Wyborczemu Prawosławnych pod płaszczykiem którego startowała komunistyczna Unia Chrześcijańsko-Społeczna,* — піша газета Антка Мацярэвіча

*Głos, nr 41*

Мы таксама перакананыя ў тым, што калі б у 1991 г. БДА атрымала месца ў Сейме РП, тады магло б весці самастойную палітыку і падпісваць дамовы не толькі з Пазьняком, але таксама з Гусейнам, Кадафі, Бушам, ці Мітаранам. Страх падумаць, што магло б з гэтага атрымацца!

* * *

*W Polsce działa około 50 zorganizowanych gangów, które zatrudniają ponad tysiąc „żołnierzy" a na ich potrzeby pracuje kilkadziesiąt tysięcy osób. Grupy przestępcze powiązane są z legalnie działającymi firmami, przez których księgowość przechodzą pieniądze z przemytu, okupów, nielegalnego handlu alkoholem, narkotykami, papierosami itp. Mafiozi są na ogół szanowanymi obywatelami. Pieniądze inwestują w legalnych firmach, których właściciele często nie wiedzą kim są ich wspólnicy. Dzieci przywódców band kształcą się w najlepszych szkołach. Oni sami pokazują się w coraz dostojniejszym towarzystwie ludzi ze świata polityki, kultury. W przestępcze struktury angażowani są wysoko kwalifikowani pracownicy, finansiści, wysocy urzędnicy państwowi. Stąd już tylko pół kroku do prawdziwej mafii.*

*Wprost, nr 15*

# З мінулага тыдня

**Лідэр Беларускага народнага фронту Зянон Пазьняк** звярнуўся да ўлад Вроцлава з просьбай стварыць магчымасць адкрыцця ў гэтым горадзе беларускага інфармацыйнага цэнтра. Падобны часовы цэнтр працуе ўжо ў Кракаве. Старшыня БНФ сустрэўся таксама з лідэрам Руху адбудовы Польшчы **Янам Альшэўскім**. РАП падтрымаў дзеянні беларускай апазіцыі „супраць паходу расейскага імперыялізму".

**Беластоцкая мітрапалітальная курыя** апублікавала камюніке ў справе рашэння Управы Рады Міністраў аб перадачы Супрасльскага манастыра Праваслаўнай царкве. І хаця каталіцкі бок не пакарыстаўся правам апеляцыі, то сцвярджае, што крыўднае для католікаў рашэнне УРМ было прынята з парушэннем права. У рассейванні варожасці ў беластоцкім асяроддзі аўтары заявы абвінавачваюць „праваслаўных шавіністаў і рускіх нацыяналістаў", а Праваслаўную царкву папракаюць у „парванні афіцыйнага экуменічнага дыялогу з Каталіцкім касцёлам на нашай тэрыторыі".

**VI Еўрафорум**, прысвечаны пытанням старых людзей, праходзіў у Беластоку пад лозунгам „Еўропа без межаў, старасць без абмежаванняў". Спецыялісты з Іспаніі, Нямеччыны і Польшчы адзначылі, што старыя людзі павінны мець права на актыўнае жыццё таксама пасля пераходу на пенсію.

**Управа горада Беластока** вырашыла перадаць Беластоцкаму ваяводу будынкі Ваяводскага асяродка анімацыі культуры па вул. Кілінскага і **Беларускага грамадска–культурнага таварыства** па вул. Варшаўскай узамен за палац Любамірскіх у Дайлідах. Такім чынам згаданыя будынкі стануць дзяржаўнай уласнасцю і іх карыстальнікі будуць разлічвацца не з гарадской касай, але з казной. Здзелка будзе магчыма пасля ацэнкі маёмасці экспертамі.

У красавіку была падпісана дамова з нямецкай фірмай Teerbau GmbH на мадэрнізацыю **акружной дарогі вакол Беластока**. Завяршэнне работ прадугледжана на 1998 год, а фінансаваць іх, у рамках будовы аўтастрады Via Baltica, будзе Сусветны банк.

**Іконы** — так называецца выстава ў Акруговым музеі ў Беластоку. Экспазіцыю састаўляюць дзве часткі. У першай паказваецца ўласная калекцыя з амаль 200 ікон, якія музей пачаў збіраць у 1966 г. У другой экспануюцца іконы, рэквізаваныя мытнікамі ў кантрабандыстаў. Большасць ікон патрабуе неадкладнай рэстаўрацыі.

**9 мільёнаў новых зл.** прэферэнцыйных крэдытаў на праэкалагічныя інвестыцыі (ачышчальні сцёкаў, водаправоды, газіфікацыя, сучасныя звалкі) прапанаваў міністр аховы асяроддзя **Станіслаў Жалюхоўскі** гмінам **Белавежа і Нараўка** узамен за згоду на павелічэнне тэрыторыі Белавежскага нацыянальнага парку. Войты і старшыні гмінных рад не згадзіліся падпісаць тэкст пагаднення пакуль не атрымаюць згоды сваіх радных. Пасол **Кшыштоф Вольфрам** такія паводзіны прадстаўнікоў гмінных улад назваў „няўменнем палітычнага мыслення і прадбачвання на ўзроўню гміны".

**Беластоцкія паліцыя і пракуратура** прымалі ўдзел у акцыі ліквідацыі гданьскай шайкі, якая займалася крадзяжом і кантрабандай аўтамашын. Паліцыя мяркуе, што зладзеі ўгналі за ўсходнюю мяжу цераз пагранпераходы ў Кузніцы-Беластоцкай і Полаўцах сама меней сто машын, галоўным чынам „Мерседэсаў". Весці расследаванне дапамагалі Інтэрпол і паліцыя з Беларусі, Латвіі, Літвы, Калінінграда і Масквы. У выніку блакады месцажыхарства злачынцаў паліцыя арыштавала 8 чалавек, у тым ліку двух былых супрацоўнікаў паліцыі і аднаго — пракуратуры.

# Весткі з Беларусі

**Прэзідэнцкае вета**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка не падпісаў прыняты Вярхоўным Саветам бюджэт на 1996 г. У прыватнасці прэзідэнт не згадзіўся з прынятым рашэннем аб вызваленні ад уплаты падатку на даходы вытворчасці харчовай прадукцыі, якая вырабляецца калгасамі і саўгасамі. Лукашэнка лічыць, што гэта прывядзе да беспадстаўнага зніжэння даходнай часткі бюджэту.

**Трансгранічнае супрацоўніцтва**

У Гродне адбылося першае пасяджэнне польска-беларускай каардынацыйнай камісіі па справах трансгранічнага супрацоўніцтва, якому старшынявалі міністры знешнеэканамічных зносін Яцэк Бухач і Міхаіл Марыніч. Падчас сустрэчы эксперты абмяркоўвалі пытанні развіцця пагранічных пераходаў, развіцця турызму і гаспадарчага супрацоўніцтва, а таксама забеспячэння інтарэсаў гаспадарчых суб'ектаў абедзвюх краін шляхам доступу да бізнес-інфармацыі.

**Не справіліся**

Будаўнічы комплекс у І квартале гэтага года не справіўся з заданнем прэзідэнта па стабілізацыі аб'ёму вытворчасці. На пасяджэнні калегіі Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва намеснік міністра Анатоль Шаціла быў вымушаны канстатаваць, што спад па галіне склаў 34,5%. У прыватнасці жылля ўведзена ў эксплуатацыю на 56% менш, чым у пачатку мінулага года. У ліку асноўных прычын падзення аб'ёму вытворчасці Шаціла назваў пагаршэнне інвестыцыйнага клімату ўнутры краіны. Павышэнне цэн на імпартныя матэрыялы і сыравіну, а таксама тарыфаў на перавозкі рэзка знізіла магчымасці заказчыкаў. Пры гэтым з лістапада 1995 года поўнасцю спынена фінансаванне будаўніцтва за кошт дзяржаўнага бюджэту.

**Міністэрскае меркаванне**

Міністр замежных спраў Уладзімір Сянько лічыць неправамерным меркаванне, што курс на інтэграцыю з Расеяй з'яўляецца вынікам недастатковай дапамогі рэспубліцы з боку Захаду. У той жа час Сянько прызнаў, што нягледзячы на намаганні, якія прадпрымаюцца беларускім бокам, садзейнічанне правядзенню эканамічных рэформ з боку Захаду з'яўляецца пакуль нязначным. Сярод прычын міністр назваў не толькі курс Беларусі на інтэграцыю з Расеяй, але і спецыфічныя ацэнкі праходзячых у рэспубліцы эканамічных рэформ.

**Афіцыйная рэакцыя**

У сувязі з заявай лідэра апазіцыйнага БНФ Зянона Пазьняка пра тое, што ён знаходзіцца ў вымушанай эміграцыі ў Польшчы, дзе хаваецца з мэтай асабістай бяспекі ад праявітага ў Беларусі рэжыму, намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта палкоўнік Уладзімір Замяталін адзначыў, што Пазьняка ні праваахоўныя органы, ні спецслужбы Беларусі не праследуюць.

**Новы нунцый**

Апостальская сталіца прызначыла на пасаду папскага нунцыя ў Беларусі архіепіскапа Дамініка Грушоўскага. Кардынал Казімір Свёнтак даслаў тэлеграму прэм'ер-міністру Міхаілу Чыгіру, у якой выказаў спадзяванні, што дзейнасць прадстаўніка Ватыкана ў Беларусі дапаможа развіццю і дасканаленні адносін паміж дзяржавай і Каталіцкай царквою, паспрыяе ўзаемаразуменню і вырашэнню актуальных пытанняў рэлігійнага жыцця ў краіне.

**Паніжэнне экс-міністра**

Прэзідэнт Беларусі падпісаў указ, у якім за грубыя фінансавыя парушэнні, сур'ёзныя апушчэнні ў забеспячэнні правапарадку на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь генерал-маёр унутранай службы Юрый Захаранка (былы міністр унутраных спраў) паніжаны ў спецыяльным званні да палкоўніка міліцыі. Гэтым жа дакументам даручана міністру ўнутраных спраў звольніць палкоўніка Юрыя Захаранку з органаў унутраных спраў у запас па выслузе гадоў.

**Новая сістэма**

З аэрадрома ў Мачулішчах узняўся самалёт „Цэсна" з навігацыйным абсталяваннем на борце. Яно на працягу гадзіны самастойна кіравала самалётам па сігналах са спадарожнікаў і наземных станцый. Адпаведныя службы міністэрстваў абароны Беларусі і ЗША, а таксама спецыялізаванае канструктарскае бюро „Камертон" прадэманстравалі ў час палёту дзейнасць глабальнай спадарожнікавай радыёнавігацыйнай сістэмы „Джэніес", да якой у бліжэйшы час далучыцца і Беларусь.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Дзе пайсці вучыцца далей** — васьмікласнікам раіць настаўнік Славамір Кулік.
- **З вершам бывае як з дзяўчынай** — да такога вываду дайшоў Міхась Андрасюк.
- **Чаго беларусы з Сакольшчыны зайздросцяць беларусам з Гайнаўшчыны.**

# Бібліятэцы – 50

Публічная бібліятэка ў Саколцы пачала сваю дзейнасць у 1946 годзе. Вяла яе настаўніца Мар'я Касінская. Кнігазбор у асноўным быў з дараў. Дзвесце кніжак падаравалі настаўнікі. У наступным годзе бібліятэка налічвала 1 492 тамы. Пачала ў ёй працаваць Ванда Наумчык. У канцы 1948 года павятовая бібліятэка налічвала 3 340 кніжак і 290 чытачоў, у тым ліку перш-наперш былі вучні мясцовых гімназіі і ліцэя.

У наступных гадах арганізоўваюць асобна гарадскую бібліятэку. Кіруе ёю Часлава Арлоўская. У павятовай бібліятэцы працавалі тры асобы: Лявон Хвайніцкі, Ядвіга Бжазоўская і Мар'я Булкоўская. Ад 1 ліпеня 1953 года кіраўніком павятовай бібліятэкі стаў Генрык Заблоцкі.

У 1954 годзе абедзве бібліятэкі аб'ядналі ў гарадскую. Загадвала ёю Мар'я Булкоўская. Кнігазбор павялічыўся да 23 тысяч тамоў. Ад кастрычніка 1959 года і па сённяшні дзень сакольскай бібліятэкай кіруе Лявон Дашута. Многа гадоў і ажно да адыходу на пенсію працавалі ў ёй Яніна Дашута і Станіслава Ляшук. Прыйшла на працу Люцына Шабётка.

Зараз бібліятэчны кнігазбор налічвае 53 400 тамоў, а пазычае іх 3 118 чытачоў. Асобна дзейнічаюць філіялы ў Саколцы, Янаўшчыне, Камёнцы, Малявічах і Сакалянах.

У мінулым годзе ў бібліятэку ў Саколцы прыбыло 1 270 кніжак, а філіялы ўзбагаціліся на 810 тамоў. **(яц)**

# Чарговы набор

17 і 18 красавіка на Беласточчыне пабывала камісія Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь. Мэтай прыезду быў набор выпускнікоў беларускіх ліцэяў на вучобу ў вышэйшых навучальных установах Беларусі.

Абмен студэнтамі з нацыянальнаменшасных асяроддзяў Польшчы і Беларусі пачаўся ў 1990 годзе, на падставе дамовы міністэрстваў адукацыі абедзвюх краін. Штогоду на вучобу ў Польшчу можа паступіць да сарака палякаў з Беларусі і столькі ж польскіх беларусаў — у Беларусь. Звычайна, аднак, у нас не набіраецца такая група ахвотных.

Сёлета камісія адобрыла ўсе кандыдатуры, разам 27 асоб: 11 з Гайнаўскага бел- ліцэя, толькі сама з Бельскага і 5 асоб з-па-за беларускіх ліцэяў. Найбольшай папулярнасцю сярод іх карыстаюцца медыцынскія інстытуты і Лінгвістычны універсітэт. Восем асоб з ліку кандыдатаў хоча стаць лекарамі або стаматолагамі, шэсць — англістамі, чатыры — германістамі. Іншыя выбраныя напрамкі, гэта: правазнаўства, эканоміка, маркетынг, фізкультура.

Цяпер у Менску і Гродне штудзіруе звыш 140 асоб з Беласточчыны. Першыя выпускнікі вярнуліся на бацькаўшчыну ў мінулым годзе. **М. В.**

# Непаладкі ў вулічным асвятленні

У вёсцы Новае Ляўкова (Нараўчанская гміна) здаўна дрэнна ўключаюць і выключаюць вулічнае электрычнае асвятленне. Так было ў асенні перыяд мінулага года, зімой і так ёсць і зараз. Бывае што электралямпы на слупах гараць то ў адным, то ў другім канцы гэтай самай вёскі. Часамі — але гэта рэдка калі — добра асветлена вуліца на ўсёй сваёй даўжыні.

Былі і такія сюрпрызы: электрычнае асвятленне запальвалася завідна і гасла, калі вёска пачынала патанаць у цемры. Вось і зараз, ад 20 сакавіка гэтага года вечарам і ноччу відна на вуліцы ў частцы вёскі, якая мяжуе са Старым Ляўковам, а ўжо хоць ты ў лоб трэсні ў першай палове Новага Ляўкова з напрамку Нараўкі. Трансфарматары ў вёсцы ёсць два, але што толку... **Янка Падрэчны**

# Беларуская рэдакцыя Польскага Радыё

паведамляе, што яе перадачы трансліруюцца штодзённа:
— а $15^{30}$ на кароткіх хвалях 41,18 м і 42,89 м
— а $17^{30}$ на кароткіх хвалях 41,27 м і 49,22 м
— а $19^{30}$ на кароткіх хвалях 41,78 м і 49,22 м
— а $22^{00}$ на кароткіх хвалях 41,78 м і 50,72 м.

10 мая ў Бельску-Падляшскім

# Беларуская песня'96 для школьнікаў

10 мая бягучага года ў Доме культуры ў Бельску-Падляшскім адбудуцца цэнтральныя элімінацыі конкурсу „Беларуская песня'96" для вучняў пачатковых школ. Прыме ў іх удзел 21 фіналіст раённых элімінацыяй.

Пачатак мерапрыемства а гадзіне $10^{00}$. **(яц)**



*У Нараўцы вада падтапіла летнія домікі.* Фота А. Вярбіцкага

# Дзве стыхіі

Незвычайна, на фоне апошніх гадоў, багатая снегам зіма адплывае ў паводках. Вадзяная стыхія не перашкаджае, аднак, другой стыхіі — агню, які ахвотна наступае на высушаныя сонцам свае плацдармы. Праз два дні бачыў я тры пажары: у правадны панядзелак у Белавежы на Мастовай вуліцы згарэлі, дзякуй абачлівасці, толькі дровы; у аўторак Ваські ахутваў пах пажарышча — згарэла клуня; у Нарве паднялі трывогу — над лесам у напрамку Тыневіч стаяў стоўп дыму. Пасля марозаў напружвае мускулы жара.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Панарама Дуброўскай гміны

*(працяг са стар. 1)*

На тэрыторыі Дуброўскай гміны 9 пачатковых школ, два дзіцячыя сады, агульнаадукацыйны ліцэй і згаданы ўжо эканамічны ліцэй і комплекс сельскагаспадарчых школ у Ружаным Стоку.

У пачатковых школах толькі 1200 вучняў. Апрача Дубровы школы знаходзяцца ў такіх вёсках як: Багны, Герасімовічы, Каменна Нова, Няросьна, Рэшкаўцы, Сухадаліна, Ружаны Сток і Звярынец Вялікі.

Варта адзначыць, што ў Дуброве працуюць (тры разы ў тыдзень) кіно „Лотас", бібліятэка з шасцю вясковымі філіяламі і Асяродак культуры. У жніўні плануецца тут беларускі фэстын.

На тэрыторі гміны толькі два праваслаўныя прыходы: у самой Дуброве і ў Ячне. Дуброўская парафія налічвае тысячу вернікаў. Узнікла яна дзесяць гадоў таму пасля трагічнага пажару драўлянай царквы ў Ячне. Раней жыхары Дубровы ездзілі за рэлігійнымі паслугамі ў згаданае Ячна. У новай дуброўскай царкве, хаця яшчэ і канчаткова не абсталяванай, ідуць багаслужбы. На прыходзе айцец **Мікола Дайнека**.

У Ячне таксама новая мураваная царква. Служыць у ёй айцец **Уладзімір Масайла**.

Як жывуць тут беларусы? На Дуброўшчыне беларусамі лічаць адно праваслаўных жыхароў. У гміне складаюць яны ўсяго няцэлыя 20% насельніцтва. Многія з іх пасля апошняй вайны выехалі ў СССР.

Самым вядомым беларусам у Дуброве з'яўляецца дзеяч БГКТ **Аркадзь Суліма**. Дзякуючы яму, жыхары Дуброўшчыны могуць пабываць на беларускіх фэстынах. Большасць праваслаўных беларусаў гэта жыхары вёсак: Востраў, Ячна, Сток, Грабяні; займаюцца яны земляробствам. У Грабянях жыве лідэр гурту **„Гранд"** Янка Петушынскі. Яго гурт вядомы і папулярны не толькі на Дуброўшчыне. „Гранд" абслугоўвае ўсе праваслаўныя вяселлі і музыкі. Хлопцы выступалі таксама на беларускіх аглядах у Беластоку.

**Ганна Кандрацюк**

Адгалоскі

# Вяртаючыся да юбілеяў

У сакавіку г.г. БГКТ і „Ніва" святкавалі юбілей 40-годдзя. Былі віншаванні, пажаданні, узнагароды. Аб гэтым якраз і пісаў Мікола Ваўранюк у рэпартажы „На 40-годдзе — сорак медалёў" у 9 (2077) нумары „Нівы" ад 3 сакавіка г.г. Чытаючы гэтае, хачу адзначыць, што ўлады Рэчы Паспалітай не абыякава аднесліся да юбілею. Сведчаць аб тым і прысутнасць знатных асоб, і колькасць прысвоеных узнагарод. Значыцца, беларуская меншасць знайшла сваё месца ў краіне і артымала належную ацэнку.

З другога боку, прызнаюся шчыра, не цешыць мяне ўсё гэта. Не цешыць таму, што ГП не намагалася вярнуцца больш у мінулае і паказаць крыху даўніны, а таксама колішні авангард Таварыства, першыя ластаўкі, якія неслі пад страху вясковых дамоў роднае слова.

Праўда, Яго Праасвяшчэнства архіепіскап Сава ў сваім выступленні напомніў, што былі такія людзі і трэба аддаць ім належную памяць. „Схіляем галовы перад заснавальнікамі арганізацыі. Вечная памяць тым, што адышлі ад нас, а гонар і слава тым, што дачакаліся юбілею". І ўсяму канец! Няўжо так быць павінна? Няўжо цяперашнім кіраўнікам Таварыства не хапіла часу на тое, каб зрабіць падборку матэрыялаў з мінулага і паказаць грамадству, як гэта зрабіла „Ніва" на старонках тыднёвіка ў фотарэпартажы „Яны стваралі «Ніву»" ці „Учора і сёння", як гэта напісаў у артыкуле „Традыцыя і сучаснасць" Яўген Міранові́ч?

Дзякуючы такім матэрыялам мы хоць крышачку маглі б вярнуцца ў мінулае, пазнаць тых, хто не адмаўляўся ад свайго роднага. А ў выпадку БГКТ, каб не Ада Чачуга, дык у Таварыстве не памяталі б, што калісьці быў у іх і працаваў Янка Крупа, не кажучы пра іншых. А тое, што цяперашнія начальнікі БГКТ парвалі кантакты са сваімі колішнімі дзеячамі сведчаць словы самога героя артыкула А. Чачугі „Імя яшчэ не забыта" Янкі Крупы: „... нарэшце нехта і са мной пагаворыць..." А ў дадатак да таго і аўтар артыкула канстатуе: „Было ў яго голасе столькі жалю, тугі па мінулым, па маладосці, якая праляцела так незаўважальна, па тых часах, калі чалавек быў актыўны і моцны, калі яго цанілі і пра яго памяталі, што мне і самой стала сумна". Святыя словы! Калі чалавек нешта варты, калі актыўны і моцны, тады яго цэняць. А калі заняможа, як бяздомнага сабаку ўсе пазбягаюць.

Канчаючы свае рэфлексіі, я ўспомню яшчэ аднаго чалавека, вядомага актывіста Таварыства, пакойнага Васіля Дзуна, настаўніка з Гайнаўкі. Хто ж яго не памятае на Гайнаўшчыне! Так, як зараз Крупа, з кіёчкам у адной руцэ, а ў другой з паношаным партфелем, нястомна вандраваў ад вёскі да вёскі. Арганізаваў гурткі БГКТ, мастацкія калектывы, пастаўляў ім сцэнічныя творы. Любіў беларускія вершы, якія чытаў прысутным на сходах. Не патрабаваў зарплаты, не быў штатным працаўніком. Як сапраўдны беларус нёс роднае слова ў самую ціхую глуш, бо верыў, што яго зерне абродзіць і прынясе багаты плён. Вось і зараз частка гэтага плёну апынулася на святочным юбілеі 40-годдзя. Шкада толькі, што імя сейбіта Васіля Дзуна выляцела незаўважальна з нашай памяці.

А мо мне так толькі здаецца?!

**Уладзімір Сідарук**

# Людзі памежжа

Толькі што выйшла з друку кніжка вядомага даследчыка польска-беларускага памежжа, прафесара сацыялагічных навук Андрэя Садоўскага „Pogranicze polsko-białoruskie. Tożsamość mieszkańców”. Сацыялагічныя працы на тэму беларускага асяроддзя Беласточчыны наогул не выклікалі станоўчых рэакцый нашага грамадства. Вобраз нашай праваслаўнай супольнасці, які ўзнікае падчас дэталёвых навуковых даследаванняў, рашуча разыходзіцца з нашым уяўленнем пра саміх сябе. Гэты другі вобраз, бачны знутры групы, больш прывабны, чым той, які відаць звонку вачамі пазбаўленага эмацыянальных абумоўленасцей назіральніка.

Прафесар Садоўскі сам з’яўляецца чалавекам памежжа, адчувае псіхалогію мясцовага асяроддзя, якое з’яўляецца прадметам яго навуковых даследаванняў. Як тутэйшы, бачыць гэты свет як бы знутры, а адначасова, як даследчык, назірае яго звонку.

Кніжка ўзнікла на падставе 1100 апытальнікаў, якія былі запоўнены падчас размоў з жыхарамі Беласточчыны і Гарадзеншчыны на тэму іх нацыянальнай, рэлігійнай і культурнай тоеснасці. Прафесар Садоўскі паставіў сабе мэту — знайсці адказ на пытанне: кім адчуваюць сябе жыхары ўсходняй Беласточчыны. Ва ўступе да свае працы піша, што вобраз беларускай грамадскасці сярод палякаў выступае амаль выключна ў стэрэатыпнай форме. З аднаго боку маем паляка-каталіка, антыкамуніста, які перш за ўсё цэніць сабе свабоду і незалежнасць, з другога — праваслаўнага беларуса, камуніста, мужыка без акрэсленай нацыянальнасці. На рэчаіснасць ніхто не звважае, міфы не маюць ніякай канкурэнцыі ў фарміраванні ўяўленняў пра нашу грамадскасць.

Кніжка А. Садоўскага пачынаецца гістарычным нарысам узаемаадносін Польшчы і палякаў да беларускай меншасці на Беласточчыне ў пасляваенны перыяд. Хаця нарыс гэты піша сацыёлаг і толькі дзеля пояснення асноўных тэзісаў свае працы, заўважае аднак шмат элементаў, якіх ніколі не ўлічвалі ў сваей дзейнасці лідэры беларускіх арганізацый.

Адносна перыяду шасцідзесятых гадоў А. Садоўскі заўважае, што, хаця свабода нават у галіне культуры была тады рэгламентаваная, але беларускае грамадства не праяўляла патрэб яе пашырэння. Наадварот, калі была нагода, беларусы ахвотна ўцякалі ад усіх сімвалаў, якія ствазала ўласная культура. У сямідзесятых гадах наступіла структурная асіміляцыя цэлай беларускай грамадскасці. Беларусы ўліліся ў фармальныя і нефармальныя структуры, якія існавалі сярод палякаў, губляючы ўсе свае асаблівасці. У сапраўднасці беларусы ператварыліся ў нейкую польскую субкультуру. Працэс гэты пачаў ускладняцца ў пачатках васьмідзесятых гадоў, калі вырасла новае пакаленне, нядрэнна адукаванае і, што найважнейшае, пазбаўленае комплексаў горшасці ці вясковага паходжання. Памыляецца аднак прафесар Садоўскі, калі піша, што з грамадскай сцэны зышлі тады закамплексаваныя, пакорныя ў адносінах да ўлад, дзеячы. Яны толькі абмежавалі на нейкі час сваю актыўнасць. Вярнуліся да грамадскага жыцця з глыбокім перакананнем, што свет не мяняецца, так як і іх менталітэт.

Аўтар кніжкі яшчэ раз звярнуў увагу на характэрную прыкмету памежжа, дзе людзі нацыянальнасць акрэсліваюць паводле грамадзянства. Згодна з гэтай логікай, той хто жыве ў Польшчы, з’яўляецца палякам. Беларусам ёсць толькі той, хто працуе ў нейкай беларускай установе — БГКТ, „Ніве”. Беларускасць нейк не пасуе да ваяводскага ўрадніка, пракурора ці універсітэцкага вучонага.

Вынікі даследаванняў А. Садоўскага могуць выклікаць абурэнне нашых дзеячаў. Высновы з іх такія: сітуацыя беларускасці на Беласточчыне ёсць горшая, чым думалі апошнія песімісты. Амаль усе жыхары Беласточчыны, якія нарадзіліся ў мешаных каталіцка-праваслаўных сужонствах, адчуваюць сябе выключна палякамі. 61,2% тых, якіх бацькі былі праваслаўнымі, таксама лічаць сябе палякамі. Большасць праваслаўных, акрэсліваючы сваю тоеснасць, ахвотна і з поўным перакананнем заяўляе толькі пра сваё веравызнанне. Як „рускіх” бачыць сябе 20,4%, „тутэйшых”, „простых”, „мясцовых” — 10,2%, „праваслаўных палякаў” — 12,8%, беларусаў — 13%, украінцаў — 2,2%. Можа ў гэтых працэнтах трэба было б шукаць прычын паражэння беларускіх выбарчых камітэтаў ва ўсіх выбарах пасля 1989 г. Гэтыя лічбы паказваюць таксама вартасць школьніцтва і ўсялякай грамадска-культурнай дзейнасці ў апошніх дзесяцігоддзях, а прытым у знакаміты спосаб адлюстроўваюць вынікі пасляваеннай нацыянальнай палітыкі.

Каб быць палякам на польска-беларускім памежжы, хапае нарадзіцца ў каталіцкай сям’і. Беларусам чалавек становіцца ў выніку жыццёвай адукацыі. Вырашаюць пра гэта яго адносіны да гісторыі і культуры. Для паляка веравызнанне бацькоў з’яўляецца асноўным фактарам вырашаючым пра яго нацыянальнасць, для свядомых беларусаў не мае яно вялікага значэння. Беларус на Беласточчыне гэта твор культуры, паляк — веравызнання. А. Садоўскі прыводзіць прыклад асобы, якая была — як сама пра сябе гаварыла — беларускай нацыянальнасці, а сёння адчувае сябе палячкай. Нацыянальнасць памяняла падчас шлюбу з каталікам. У свядомасці праваслаўных сужонства з каталікам абазначае пераўтварэнне ў сапраўднага паляка.

**Яўген Мірановіч**

A. Sadowski, *Pogranicze polsko-białoruskie. Tożsamość mieszkańców*, Białystok 1995, wyd. Trans Humana, s. 263.

*Кніжку можна купіць у выдавецтве: Беласток, вул. Сверкова, 20.*

# Святкаванне ў Сіднеі

У сувязі з крыху спозненым прыездам у Аўстралію старшыні Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына” Ганны Сурмач са сваімі спадарожніцамі, святкаванне 78-х угодкаў Абвешчання Незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі Актам 25-га Сакавіка 1918 г. было адтэрмінавана на нядзелю 7 красавіка 1996 г.

Святкаванне пачалося раніцай у праваслаўнай царкве ў прыгарадзе Гомбуш, дзе настаяцель царквы, беларус з Беласточчыны, айцец Ігар адслужыў асобную Божую Службу за беларускі народ і за незалежнасць Рэспублікі Беларусь. Пасля пачаўся ўрачысты сход у Беларускім клубе ў прыгарадзе Фэйрфілд. Старшыня клуба Міхась Лужынскі афіцыйна прывітаў прысутных беларусаў і гасцей са Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына”. На сходзе прысутнічала таксама слынная мастачка з Менска Лайла Варэца, якая займаецца вельмі важнай справай аднаўлення і ўзбагачэння аграбленага ворагамі беларускага скарбу.

Са змястоўным і патрыятычным рэфератам выступіў кіраўнік Беларускай секцыі Радыё СБС у г. Сіднеі В. Ельканövіч, а сакавіцкія прывітанні ад галоўнага рэдактара газеты „Ніва” ў Беластоку Яўгена Міраноўіча, ад былога старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча, ад рэдактара і адказнага сакратара газеты „Беларускі калекцыянер” Ул. Цярохіна і Ларысы Гедзімін, ад рэдактара патрыятычнай газеты „Пагоня” Міколы Маркевіча, ад Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі і ад настаўнікаў і студэнтаў Беларускай гімназіі ў Вільні за подпісам Паўла Саўчанка зачытаў Алесь Алехнік.

З вельмі змястоўнай прамовай аб падзеях і сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь выступіла старшыня Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына” Ганна Сурмач, у якой яна шырока і дакладна праінфармавала прысутных аб тых кроках ды інтрыгах, якімі ворагі намагаюцца знішчыць незалежнасць Беларусі. Усіх прамоўцаў прысутныя ўзнагароджвалі бурнымі воплескамі.

Афіцыйная частка святкавання 78-х угодкаў Абвешчання Незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі закончылася адспяваннем беларускага нацыянальнага гімна „Мы выйдзем шчыльнымі радамі”, пасля чаго пачаўся супольны абед, вельмі ўдала падрыхтаваны сяброўкамі Жаночага камітэта пры Беларускім клубе, за які ўсім належыцца шчырае дзякуй!

**Прысутны**

# Саветы і немцы

**Успаміны Веры КАНОНЬЧУК, 89-гадовай жыхаркі Трасцянкі.**

Саветы тут былі ў саракавым і ў сорак першым. У сорак першым мой чалавек памёр. На вывазку нейкую рыхтаваўся. Прыйшла *дахтуорка* і кажа: „Да, уж вы не пойдёте”. А як ён памёр, а тата дзесьці там, каля вывазкі; то яны не бачылі і не зналі, што ён памёр. Саветы яшчэ тут сваіх парадкаў не ўводзілі — як жылі, так і асталіся на сваіх *дзялках*. Яшчэ нікога не вывозілі.

Як прыйшоў немец, то кепска да людзей адносіўся. Пастарунак нямецкі ў нашай вёсцы быў. Аднаго разу загадалі немцы, каб усе людзі пад царквой сабраліся. Ну то ўсе ідуць. А немцы акружылі сяло, каб знішчыць, бо прыходзілі сюды партызаны. Па начах прыходзілі, а дзеці баяліся, бо бацька памёр. То адзін з іх кажа: „Не бойтесь девушки, мы вас трогать не будем”. І хадзілі яны па хаце, штось з сундука ўзялі. Сын у мяне быў, дванаццаць гадоў меў, як бацька памёр, яго чобаты ў кухні стаялі. То адзін з іх за тыя чобаты. А сын просіць-просіць: „Я — сірата, у мяне атца нет” — каб не бралі. І ўжо адзін узяў. А другі кажа: „Ах, брось”. І не ўзялі. А тады, як немцы ўсіх акружылі, то солтыс за нас паручыўся сваёю галавою. І так нас аставілі. А як немцы толькі прыйшлі, то тут адну бабу расстралялі, што *прадсядацелём* пры саветах была, чацвёра дзяцей асталося. У васькоўскім барку — тады многа расстралялі: з Сацоў два. А пасля агледзеліся, што, значыць, *няслушна*; то тады таго войта расстралялі. А колькі людзей там загінула — казалі, зямля варушылася як пазакідалі. А адзін там быў, і думае: усё роўна смерць, ці так, ці так. І як даў у лес! І ўцёк. Пасля то яшчэ ў нас аднаго партызана забілі. На Даліне, зайшоў да аднаго да клуні. А той гаспадар зайшоў па сена ці чаго, і злякаўся таго партызана. І зайшоў да суседкі і кажа, што партызан у клуні. А тая суседка зналася з немцамі, бо яе брат быў нямецкім паліцыянтам. І яна пабегла на пастарунак, і тады тыя немцы прыехалі і акружылі тую клуню, але ніяк не далі рады яго забіць. І тады адзін паліцыянт, наш, свой чалавек, толькі быў нямецкім паліцыянтам, паддзеў пад тую клуню і падпаліў. Клуня пачала гарэць і той партызан выбег з клуні, і страляючы, пабег у шопачку. І тады яго забілі. А мой сын ехаў акурат з поля і яму ў воз яго ўкінулі і завезлі ў ямкі ў лясок і там закапалі. Нетутэйшы быў.

Вывозілі таксама нашых людзей у Германію, многа вывезлі. Адну то з двойкай дзяцей і з трэцім у калысцы забралі. Раніей яе там у нагу, а муж на вайне загінуў. Як яна была ў шпіталі, адна свая кабета забрала яе дзяцей і прывезла дадому. А потым і сама маці прыехала, вярнулася.

І немцы розныя былі. Адзін тут быў такі высокі, *файны* мужчына; трыццаць ран меў, але яны пазажываліся. То, бывала, Насця, дачка мая, зойдзе на пастарунак, то ён яе за ручку браў, папраўляў хустку, каб прыгажэй выглядала, і вёў пачаставаць; даваў мяса, суп, такую добрую *фасалёўку*, і пагладзіў — відаць і ў яго такія дзеці былі.

Саветы наступалі пяшком, і немцы пяшком адступалі. Саветаў мы частавалі, знаеце, свае людзі; „Здраствуйте, таварышы”, гаварылі. Аднаго рускага ў ямках немцы застрэлілі, ляжаў ранены; „Идите отсюда, бо и вас проклятый немец убъёт”, гаварыў. Пахавалі яго на могілках, шкада было. А адзін старшы, можа палкоўнік, то браў Насцю за ручку і гаварыў „Пойдём в кино”. Фільмы на клуні высвятлялі вечарам, крэслы былі, сядзелі і аглядалі. Да гэтага часу ніхто ў нас чагось такога не бачыў. Толькі, да выезду ў бежанства яшчэ, да аднаго суседа быў брат прыехаў, быў нейкім старшым. Грамафон з сабою прывёз. А мы, малыя, чуем, што нешта іграе; цікавіць нас, што гэта такое. А маццеры нашы гавораць: „Нэ ідіэтэ туды, то чарты там співают”.

Пасля вайны банды хадзілі; і свае ў іх былі. Прыйшлі раз уначы, а ў аднаго пад халатам кажух вышываны, забраў, відаць, ад кагось. А тыя, што ў немца паліцыянтамі служылі, то сядзелі; адзін у Расіі дзесяць *лiэт* сядзеў, але вярнуўся. А другога то засудзілі на кару смерці *пиэз повешэне*, але жонка стала хадайнічаць і пасля якіх дзесяці гадоў таксама пусцілі. Нічога яны нікому дрэннага не зрабілі, от толькі што ў немца служылі.

А гэтая зіма якая, даўно ўжо такой не было! Якіх шэсць-сем гадоў таму, то ў лютым камары лятаі. А цяпер штось у нагу ўлезла, цяжка хадзіць. Даўней у царкву хадзіла, спявала. Яшчэ ў бежанстве, калі ў школу хадзіла, а хадзіла ў школу толькі тыя тры *зімы* — больш ніколі, то на сцэну мяне прасілі спяваць. Па-славянску ўмею чытаць. Па пакойніках — няма яшчэ хіба ста, але дзевяноста то ўжо будзе — чытала, адпраўляла. А цяпер не дам рады чытаць, бо тры гады таму мела аперацыю на вока, *зацьма* была. А так хочацца чытаць.

Запісаў **Аляксандр Вярбіцкі**

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 436

Рэдактар: Сакрат ЯНОВІЧ

***Закончыўся I Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы, арганізаваны рэдакцыяй „Нівы” і Беларускім саюзам. З'явіліся ў літаратуры новыя імёны.***

***Гэту старонку цалкам падрыхтавана з твораў узнагароджаных аўтараў.***

**Мікола Ваўранюк**
**(журналіст)**

* * *

мой дом
на ветранай гары
трыццаць год
таўстазадыя бабы гадзінамі
ф'ю-бздзю, тру-пру
на лаўках, у чарзе
па смятану
гнёзды ластавак
на бетонных сценах
у кожным акне
а каб вы здохлі абасранцы
заўсёдны вецер
панёс дзіцячы капялюшык
далёка-далёка
у даліну райскую
дзе сем разоў па сем каміноў
у даліне імгла
за вакном енчыць сабачаня
злосць на сына дэбіла
на жонку пяты раз
цяжарную, з'еш мой мілы
булёнчык астыне
гара сцягвае грымоты
зях-зях, бах-бах
сусед суседку — трах
а-я-яй, што за смак
млясь-млясь, чмак-чмак
доўгі сцелецца цень
як штогод, як штодзень

* * *

Кропля за кропляй скапвае карычневая вадкас
Нядзельная самота ўбірае пах гарбаты,
прымае форму плыткага цыліндра філіжанкі,
і густы колер шэрае гадзіны.

Пачуцці страчваюць выразнасць,
боль гасне, ціхне радасць...
Губляюцца ўдачы й паражэнні
ў забыцця лагодным смутку.

### Пахвала статыкі

Сабака заснуў на парозе,
гаспадар дрэмле ў фатэлі,
нікому нічога не трэба...
Час ляніва цячэ нядзеляй.

Чыста ўсюды прыбрана і ціха
— тэлевізар ано на паўгуку —
спакойна, святочна, дастойна.
Хочацца пэндзаль узяць у руку.

Шалёныя людзі і толькі
сіметрыю нішчаць карціны,
штось пачынаюць, канчаюць,
у дарогу збіраюцца —
такой хвілінай.

**Юстына Каролька**
**(вучаніца)**

* * *

адзіноцтва ў штодзённым натоўпе
амаль непрыкметнае
за шклянай пакрывай людзей
не відаць што іду сама вуліцай слоў
але калі я адна ў пакоі
за акном поўным зор
за хмарай мараў
чую толькі маё дыханне

### вясна

чый гэта голас
няўжо раса будзіць траву са сну
магчыма маліна чырванеючы
узбіраецца па залатых праменьчык
калыханка дубоў ці блакіту спеў
кветкі румянай вішні

### дом дзядулі

брамка адкрыта
на кагосьці чакае
аднак і так ніхто сюды не прыйдзе
усё ў траве
— чыёй рукой засеянаю
замкнёны вокны і дзверы
сцеражэ павуціна
перад дзённым святлом

мінулае
— быццам белыя кветкі вясны
на замёрзлай шыбе

### пусты дом

уваходжу ў хату
цішыня
у печы не напалена
гаршчок пусты
з вядра сцякае апошняя кропля вады
сонца рассцілае праменні на стале
яшчэ адзенне вісіць
здаецца што хтосьці за печкай
чытае кніжку
чую крокі...
але нікога тут няма

**Моніка Тамчук**
**(вучаніца)**

### Чужы

Калісьці сустрэла я чалавека поўнага тугі,
тугі па чымсьці, што кахаў,
з сэрцам скрываўленым ад жалю,
шукаючага чагосьці, што страціў,
а можа чагосьці, чаго не меў.
Я запытала яго: — Што табе, чалавеча?
Глянуў смутнымі, поўнымі слёз, вачыма і
... маўчаў.
Я адышла, не могучы яго зразумець.
Час, аднак, прынёс зразуменне.
Я сустрэла яго другі раз.
Гэта было маё люстраное адбіццё.
І я ўжо ведала, я ўжо разумела,
што было прычынаю яго псіхічнага заняпаду.
Ён шукаў Айчыны.

### жыццё

маладосць гэта магутнасць
прыгожыя квітнеючыя лугі
пахнучыя зелянінай
сады поўныя сакавітых фруктаў
гэта вясна якая
ёсць паўнатою жыцця
што ж калі разумеюць гэта выключна
старыя хворыя зайздрасцю
якія маюць толькі восень
адцвітаючыя кветкі і
ападаючае змярцвелае лісце

### Прыяцель

Ты адзін, патрабуеш спачування,
пачынаеш блудзіць паміж людзьмі,
шукаеш дружбы,
заглядаеш прахожым у вочы,
распорваеш ім цела, каб заглянуць у душы,
стараешся падпарадкаваць кагосьці да агульнай
схемы, так званага, прыяцеля.
Хтосьці, аднак, будзіць цябе з твайго вар'яцтва,
хтосьці гладзіць цябе па галаве,
прытуляе да сваіх грудзей,
абцірае крадком пушчаную слязу.
Гэта хтосьці, каго не знайшоў бы ты ў недарэчным натоўпе,
хтосьці, хто ёсць з табою, хаця ты аб гэтым не ведаеш.
Гэта твой прыяцель.

### Ты

Ты заняў лепшую палавіну майго я.
Тырчыш у ёй, не думаючы пра адыход.
Кожную раніцу будзіш, а вечарам закалыхваеш
аднолькава маю, як і сваю, частку.
Кожны дзень усё больш
паглыбляешся ў маю асобу.
Намагаюся вырвацца з кіпцюроў,
якія так упарта раздзіраюць штосьці, што
з'яўляецца мною.
Ты, аднак, завалодаў мною надта моцна,
каб змагла я існаваць самастойна.

**Ірэна Лукша**

## Планета Ружа

Мірак быў беспрацоўным. Яго нарачоная працавала цырульніцай. Зарабляла яна нядрэнна. Маладыя думалі пабрацца шлюбам, як толькі знойдзе Мірак работу. У малым горадзе было з гэтым цяжка.

Аднойчы ўсміхнулася яму шчасце. Уласнік лесапільні прыняў на работу трыццаць мужчын. Мірак апынуўся ў іх ліку. Калі аформіў патрэбныя паперы, пабег з навіною да сваёй Ёлі.

Але яна з халадком паглядзела на яго і сказала:

— Не пайду за цябе.

І патлумачыла, што не разжывецца з ім. А яшчэ — пасватаўся ўласнік трох мясных крамаў.

Хлопец пабялеў. Ён без слова выйшаў ад яе. Зайшоў далёка ў ельнік. Лес супакойваў яго. Заўсёды рабіў так, калі нешта яму не ўдавалася.

Прахадзіў да самога змяркання.

Адчуваў сябе так, быццам нехта заеўся на яго, праследаваў. Забрыў на нейкую паляну, на якой — на сваё здзіўленне — угледзеў касмічны карабель. Каля таго карабля стаяў блакітны чалавек. Убачыўшы Мірка, махнуў яму рукою. Хлопец, бы зачараваны, наблізіўся да яго.

— Хачу табе дапамагчы, — сказаў чужак з іншай планеты.

Папрасіў ён Мірка ўвайсці ў сярэдзіну карабля. Мірак сеў у крэсла. Праз хвіліну адчуваў сябе так, быццам едучы ліфтам. Неўзабаве машына спынілася.

— Мы ўжо на планеце Ружа, — паведаміў той блакітны.

Выйшаўшы разам з ім, хлопец пачуў прыемны арамат фруктаў: перад ім зелянеў сад, па якім хадзілі такія ж блакітныя людзі. Яны рвалі вялікія яблыкі і адразу елі іх.

— Я прывёз цябе, каб накарміць жыццёвай энергіяй. Мы адзін раз у год ямо яблыкі і яны нам даюць шчасце. Тады ўдаецца ўсё, што задумаеш. Ты павінен з'есці пяць яблыкаў. Адно для шчаслівага кахання, адно для здароўя, адно для багацця, адно дзеля таго, каб мець верных сяброў, і адно, каб твая работа не пайшла ў пустапаш.

Мірак паеў усе нагаданыя яблыкі і блакітны чалавек адвёў яго ў касмічны карабель, на якім хутка апынуўся зноў жа на лясной паляне, на якую зайшоў быў ён.

— Можаш распавесці аб гэтым здарэнні, каму хочаш, бо ўсё роўна ніхто табе не паверыць, — сказаў на развітанне жыхар Ружы.

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



## Гарадоцкія пачынальнікі

Гарадоцкія сябры: Магда Госцік, Сільвія Паплаўская, Эля Карпюк, Малгажата Госцік, Аня Кулеша, Андрэй Казёл і Грышка Цітко не раз ужо былі героямі нашай старонкі. Яны, як першыя, пачалі ствараць творчыя сустрэчы „Зоркі". Гэта дзякучы ім узнікла беларуская каплічка на гары Шэльмент, а пазней два каляровыя крыжы ў Меляшках. Іх можна было сустрэць таксама на многіх мерапрыемствах. Сільвія, Аня і Эля вядомыя і таму, што спяваюць у маладзёжным беларускім хоры, які дзейнічае ў мясцовым доме культуры. Дзяўчаты спяваюць незвычайна. У мінулым годзе на цэнтральным аглядзе беларускай песні яны заваявалі першае месца. Магда і Гося прыгожа і цікава малююць. Андрэй — таленавіты вершаскладальнік. „Свае думкі, — сказаў ён аднойчы, — найлягчэй выявіць мне ў вершы". У „Зорцы" таксама друкаваліся Андрэйкавы творы. А Грышка і Паўлік Гжэсь (які якраз быў адсутны) — цікавяцца рок-музыкай. Хлапчукоў я сустракала заўсёды на канцэртах гарадоцкай, беларускай рок-групы „Брага". Можа ў будучыні і яны будуць папулярызаваць гэты жанр.

Усе згаданыя асобы вучацца ў шостых класах Пачатковай школы ў Гарадку. Яны складаюць „старэйшую беларускую групу". Назва падказвае, што ўсе ходзяць на ўрокі роднай мовы. А чаму старэйшая група, падумае нехта? У Гарадку гэты прадмет абрываўся на пятым класе. Нашыя сябры, як першыя, пачалі прадаўжаць навучанне гэтага прадмета. Многія іх класныя сябры не цікавяцца вывучэннем беларускай мовы. І, вядома, у такім клімаце нялёгка працаваць, аставацца пасля ўрокаў на дадатковыя заняткі. Але іхняя праца напэўна дапаможа ім у будучыні. Калі дарастуць, зразумеюць важнасць роднай мовы. Бо толькі прасцякі не жадаюць пазнаць сваю спадчыну, сваю родную мову.



*Крыж у калёніі Меляшкі стварылі згаданыя ў артыкуле дзяўчаты і хлопцы.*



*На здымку (злева): Грышка Цітко, Сільвія Паплаўская, Андрэй Казёл, Аня Кулеша, Эля Карпюк; сядзяць (злева): Магда Госцік і Малгажата Госцік.*

**Зорка**

*Фота Ганны Кандрацюк*

## Вершы Віктара Шведа

### Цяжкія пытанні

Бацьку пытаецца Іван,  
Спакушаны мо ліхам:  
— Скажы, ці Ціхі акіян  
Заўжды бывае ціхі?

— Што за дурноту задалі,  
Як на якое гора?  
— Дык можа скажаш мне, калі  
Памерла Мёртвае мора?

### Добрае выхаванне

Сварыць сынка свайго малога мама:  
— Рукі памый перад ядой, як след.  
Што б ты сказаў, каб бруднымі рукамі  
Штодзень варыла я табе абед?

На гэтае матуліна пытанне  
Сын адказаў з хітрынкай у вачах:  
— Хто добрае атрымаў выхаванне  
Не робіць асабістых ён заўваг.

### Дрэнная прывычка

Вучня на вуліцы прахожы  
Ругае вельмі, што аж страх:  
— Як жа без сораму ты можаш  
Выйсці з смярдзючкай у зубах?

Вучань на гэта: — Сорам маю,  
Ды як без сораму мне жыць?  
Ад чатырох гадоў кідаю  
І кінуць не магу курыць.

## Юр'е — народнае святкаванне

Юр'е беларусы святкавалі са старадаўніх часоў. Выпадае яно 6 мая, а святкуюць яго ў гонар заступніка жывёлы і гаспадаркі св. Юр'я. Раней яшчэ ў дахрысціянскія часы гэтае свята спалучалася з культам Ярылы.

Чаму ж гэта свята такое важнае? На Юр'я ўпершыню выганялі жывёлу ў поле. Перад гэтым гаспадары праводзілі шмат магічных практык. Першай з іх быў абыход статка з асвечаная на Вербніцу лазой або грамнічнай свечкай. Гэта мела гарантаваць лад і згоду паміж жывёлай у грамадзе, абараняць яе ад хвароб і драпежнікаў. Абавязкова было выгнаць кароў на юраўскую расу. Тады каровы давалі многа малака і не прыставалі да іх чары злосных вядзьмарак.

Вечарам перад Юр'ем хлопцы першы раз выганялі коней. Людзі верылі, што св. Юрый замыкае ваўкам пашчы і з гэтай пары конскі статак не стане ахвярай драпежнікаў.

Паводле народных вераванняў, юраўская раса мела цудоўную моц. Дзяўчаты верылі, што калі памыць ёй ранішай твар, іх абліччы ўвесь год будуць прыгожыя і здаровыя. Юраўская раса змывала лішаі, вяснушкі, а нават маршчынкі.

На Юр'е хадзілі ў поле. Гаспадыні пяклі спецыяльны каравай, з якім гаспадары абыходзілі свае нівы. Там, дзе расло жыта, ставілі каравай сярод руні і гадалі: як хаваецца — год ураджайны будзе. Юр'е лічылася святам пастушкоў. Яны ў гэты дзень збіралі многа закускі і ладзілі на пашы пачастунак. Пастухі смажылі яечню і з ёю тройчы абыходзілі статак. Гэта мела абараніць жывёлу ад мору і ўпадку. У гэты дзень пастухі не карысталіся кіем.

На Юр'е людзі гадалі будучы ўраджай. Калі ішоў густы дождж, то лічылася, што жыта ўродзіць густое, буйное. „Калі дождж толькі крапіць, то ўвесь год кароў даіць" — бо лета будзе багатае на траву. А калі не было ні дажджу, ні снегу, лета ішло сухое і неўраджайнае.

У гэты дзень беларускія вёскі папаўняліся галасістымі спевамі. Існавала вельмі многа юраўскіх песень. Спявалі іх і старыя, і малады. Найбольш аднак традыцый прытрымоўваліся дзяўчаты. Вадзілі яны вясёлыя карагоды па вёсках і палях.

## Вясной

Ездзілі мы ў сяло  
Як цяпер там весяло  
Салавей ў гаю пяе  
Зязюля ў лясу куе.

На балоце буслы бродзяць  
А далей каровы ходзяць  
У полі груша зацвіла  
Там я з мамаю была.

Каб вы зналі, даражэнькі  
Бегаў зайчык там маленькі  
А злапаць я не магла  
Хаця й босая была.

Пад бярозаю з крыніцы  
Напіліся мы вадзіцы  
Там і кладачка была  
Я сама па ёй ішла.

**Мікалай Ігнацюк**

## Каляровыя алоўкі

Даўно, даўно таму жыла бедная сям'я, якая не мела грошай. Была ў іх малая дзяўчынка Юстынка. Усе багатыя дзеці не любілі яе і яна была сумная. Часта хадзіла яна ў лес. У лесе была пячора, а ў ёй каляровыя алоўкі і карткі для малявання. Яна там сядзела і малявала. Дзяўчына хадзіла ў лес, бо там было ёй прыемна: спявалі птушкі, бегалі звяры, пахлі кветкі, шумелі дрэвы, лёталі матылі... Аднаго разу Юстынка пайшла ў лес маляваць. Калі малявала вавёрку, убачыла дзіўную постаць, якая стаяла і гаварыла:

— Хадзі сюды, хадзі...

Дзяўчына падышла да спадарыні ў залатой сукенцы, срэбных пантофлях:

— Чаго ты хочаш? Што я зрабіла, што?

— Я, — сказала чарадзейка з зоркай на галаве, — прыйшла да цябе, бо хачу даць табе чарадзейскія алоўкі.

— Але я маю алоўкі! — адказала Юстынка.

— Гэтыя, чарадзейскія, па твайму загаду ўсё зробяць... — сказала чарадзейка.

Дзяўчына падзякавала. Тады чарадзейка знікла, а Юстынка сказала сваё жаданне:

— Няхай усе людзі будуць шчаслівыя, вясёлыя, здаровыя, а бедныя няхай не будуць беднымі і ўсе няхай жывуць у згодзе!!!

Просьба Юстынкі споўнілася, а яна і сям'я не былі ўжо бедныя.

**Аня Тэслюк**

**VI клас ПШ у Новым Корніне**

**Ад рэдакцыі:** Прывітанне Аня. Твая мама мела рацыю, у цябе сапраўды багатая фантазія. Добра, што ты пачала пісаць на беларускай мове і радаваць сваёй творчасцю сяброў „Зоркі". Чакаю наступных тваіх твораў. **Зорка**

# Дзеці пра сустрэчу з Лёнікам

**Дарагая „Зорка"!**

19 сакавіка ў нашай школе адбылася сустрэча з мастаком Лёнікам Тарасэвічам.

На пачатку госць расказаў пра сваё дзяцінства. Сказаў, што ён на пачатку не любіў беларускай мовы. Пазней апавядаў пра краіны, у якіх быў. Мне найбольш падабалася назва мясцовасці Ушуая. Мастак быў амаль ва ўсіх краінах свету. Падказаў нам, як дрэнна спаць на вакзале ў Празе. Потым расказаў аб тым, як быў у Амерыцы. На канец сустрэчы Лёнік Тарасэвіч падпісваўся кожнаму. Гэта было найбольш смешнае. Спадар Лёнік рысаваў розныя рэчы: коней, гаршкі і іншае.

Гэтай сустрэчы я ніколі не забуду.

**Міхась СТЭПАНЮК**
**кл. V „е" ПШ н-р 3**
**у Бельску-Падляшскім**

**Добры дзень „Зорка"!**

У нашай школе адбылася сустрэча са славутым мастаком Лёнікам Тарасэвічам. Ён расказваў нам аб сваім дзяцінстве, аб тым як ставаў мастаком. Аказваецца, што нават „вялікія" людзі былі калісьці звычайнымі дзяцьмі. Найбольш зацікавілі мяне расказы пра месцы, якія ён зведаў. Мастак быў між іншым на Канарскіх астравах, у Італіі, пустынях.

Пад канец славуты мастак рысаваў цудоўныя малюнкі, карыкатуры і падпісваў іх.

Мне вельмі спадабалася гэтая сустрэча і я хацела б, каб было іх больш.

**ЭВЕЛІНА**
**кл. V „а" ПШ н-р 3**
**у Бельску-Падляшскім**



*Сустрэчай пацікавіліся многія вучні.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Легенды нашай зямлі

### Зубава

Шаснаццаць кіламетраў ад Бельска ляжыць вёска Зубава. Адна з легенд гаворыць, што калісьці, пасля падзелу Польшчы, цар даў узнагароду аднаму са сваіх салдат. Была гэта паншчынная зямля, а той чалавек называўся Зубаў. Адтуль і пайшла назва вёскі — Зубава.

**Міхась СТЭПАНЮК**

### Кошкі

Побач дарогі ў Кляшчэлі ёсць вёска Кошкі. Першая назва была Куські. Людзі, якія там жылі, самі памянялі назву. У наваколлі вёскі было многа лясоў. Людзі хадзілі туды на грыбы. Зімы былі ў той час больш снежныя, чым цяпер. Часта гулялі мяцеліцы. Здаралася, што людзі блудзілі, і калі даходзілі да першага дома ў вёсцы, пыталіся гаспадара, куды гэта яны трапілі. Гаспадар адказваў, што яны — у Кошках. Тады вандровец дзівіўся, што Куські то ён ведае, але Кошкі?..

Сённяшняя назва паходзіць ад таго, што ў вёсцы было многа кошак. Яшчэ цяпер расце лес, які называюць „Вульшынай". Няма там цяпер грыбоў, а ў летні, сонечны дзень, калі ходзіш па „Вульшыне", адчуваеш холад.

### Козяя Рэчка

Многа гадоў таму, калі жылі яшчэ нашы прадзеды, быў вялікі лес, які называлі Козяя Рэчка (Кузярэчка). Ён сёння намнога меншы. Расце між вёскамі **Леўкі** і **Казлы**. Назва гэтага лесу паходзіць ад таго, што даўно таму праплывала тудою рэчка, да якой прыходзілі піць ваду козы. Людзі, якія прыходзілі ў лес на грыбы і бачылі гэта, расказвалі іншым. Нават калі хто прыйшоўшы на бераг коз не заўважыў, то мог пабачыць сцежкі, вытаптаныя казінымі капытамі.

Цяпер нідзе ў ваколіцы няма так многа коз.

**Андрэй ТАРАНТА**

Абодва аўтары вучацца ў класе V „е" бельскай „тройкі".




**У гасцях у „Зоркі" Ігар Ліньчук, першакласнік Пачатковай школы № 9 у Беластоку.**

*Фота Міры ЛУКШЫ*

Мікола ГАЙДУК

# Аб нашым мінулым

### 5. Рагнеда і Уладзімір

Першым полацкім князем, вядомым па імю, быў Рагвалод, ён княжыў *у Полацкай зямлі і валадарыў ёй,* — падае летапісец.

Рагвалод пачаў княжыць у Полацку каля 960 года. Было ў яго два сыны і незвычайнай прыгажосці дачка Рагнеда. У тым часе ў сталіцах суседніх княстваў панавалі: у Ноўгарадзе Уладзімір, а ў Кіеве — яго брат Яраполк. І сталася так, што да прыгажуні Рагнеды адначасна пасваталіся абодва гэтыя князі. Рагвалод запытаў сваю адзіную дачку: „Ці хочаш выйсці за Уладзіміра?" Але князёўне падабаўся Яраполк, адукаваны грэчаскімі настаўнікамі, культурны чалавек. Таму яна адказала бацьку: „Не хачу разуць сына нявольніцы, хачу ісці за Яраполка". Тады ў беларускіх плямёнаў быў такі звычай, што пасля шлюбу маладая жонка разувала маладога. Уладзімір быў сынам служанкі яго бацькі і бабулькі, нявыхаваным нахабнікам, ён не падабаўся Рагнедзе.

Абражаны адмовай Уладзімір сабраў многа вояў і напаў на Полацкую зямлю, якраз калі Рагнеду адпраўлялі да Яраполка. Напад быў неспадзяваны, Полаччына і яе сталіца былі здабыты і разрабаваны, а Рагвалод з жонкай і двума сынамі забіты. Рагнеду Уладзімір прымусіў стаць яго жонкай.

Затым Уладзімір здабыў Кіеў, і яго воі забілі Яраполка. З Рагнедай у Уладзіміра было чатыры сыны і дзве дачкі. Перад хрышчэннем Уладзімір пакінуў іх ды сваіх іншых жонак з дзяцьмі і ўзяў сабе за жонку візантыйскую царэўну Анну.

Аднойчы ён наведаў Рагнеду з дзяцьмі і заснуў пры іх. Тады Рагнеда вырашыла зарэзаць яго ў помсце за ўсе крыўды. Але князь прачнуўся ў апошнюю хвіліну, схапіў жонку за руку з нажом і запытаў: „За што?" Княгіня адказала: „За тое, што бацьку майго забіў, зямлю яго захапіў, а цяпер не любіш ні мяне, ні дзетак нашых". Узлаваны Уладзімір загадаў ёй падрыхтавацца да смерці.

Рагнеда апранула свой колішні шлюбны ўбор і была гатова загінуць. Аднак іхні старэйшы сын Ізяслаў не дазволіў забіць маці.

Уладзімір пабудаваў на ўскраіне Полацкай зямлі горад Ізяслаўль (значыць: горад Ізяслава, цяперашняе Заслаўе каля Мінска) і выслаў туды Рагнеду з сынам Ізяславам. Праз нейкі час Ізяслаў пры дапамозе полацкіх баяраў і Рагнеды стаў князем на пасадзе свайго дзеда Рагвалода ў Полацку. Адрадзіў ён полацкую княжацкую дынастыю Рагвалодавічаў і паступова адбудаваў колішнюю магутнасць Полацкага княства.

Рагнеда і Ізяслаў ахрысціліся ў праваслаўную веру, за іх прыкладам пайшлі полацкія баяры, воі і многа іншых людзей. Хрысціянства стала пашырацца па ўсёй Полацкай зямлі. Княгіня з князем паклапаціліся пра запрашэнне з Канстанцінопаля епіскапа і заснаванне ў 992 г. у Полацку першай епіскопіі. Рагнеда прыняла манаскі пострыг, манаскае імя Анастасія, заснавала ў Ізяслаўлі першы на беларускіх землях манастыр і да свае смерці ў 1000 г. была ў ім ігуменняй.

Іншыя дзеці Рагнеды і Уладзіміра таксама былі хрысціянамі і сталі князямі і княгінямі: Мсціслаў — князем чарнігаўскім, Яраслаў — кіеўскім, Усевалад — валынскім; князёўна Прадслава выйшла замуж за чэшскага, а Прэміслава за венгерскага князёў.

Рагнеда стала для ўсіх беларусаў узорам ахвярнай хрысціянкі, мужнай і аддана́й радзіме беларускі.

### Практыкаванні

*1. Хто быў першым вядомым князем у Полацкім княстве і калі ён пачаў княжыць?*

*2. Чаму князёўна Рагнеда не хацела пайсці замуж за князя Уладзіміра?*

*3. Па якой прычыне княгіня Рагнеда спрабавала зарэзаць князя Уладзіміра?*

*4. Хто ўратаваў Рагнеду ад смерці?*

*5. Як Ізяслаў і Рагнеда адбудавалі незалежнасць Полацкага княства?*

*6. Раскажыце пра пашырэнне хрысціянства ў Полацкім княстве.*

*7. Узорам каго для беларусаў стала Рагнеда?*

### Дапоўні сказы і запішы іх у сшытку.

У першага вядомага полацкага князя ... была прыгожая дачка, князёўна ... і ... сыны. Да ... пасваталіся два князі: кіеўскі ... і наўгародскі ... . Яна хацела пайсці замуж за ..., але вымушана была стаць жонкаю ... . Князь ... пабудаваў горад ..., назваў яго так па імю свайго сына ... . Князь ... пры дапамозе полацкіх ... і свае маці ... адрадзіў у Полацкім княстве дынастыю ... . Князь ... з княгіняй ... ахрысціліся і ў ... годзе заснавалі ў Полацку епіскопію.

# Польска-беларуская крыжаванка № 18

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Stado | | Rosa | Salon | Chan | Maj / Chata | | Korona | |
| Białoruskie pieczywo obrzędowe | | | | Oko | | | | |
| | | | | | | | Kula | |
| Żeton, znak / Nosek | | | | | | ■ | | |
| | | | | | Pan | | | |
| Kana | | | | | Era | | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 13**: яр, вакзал, роля, пралескі, рама, Ніл, грукат, раскол, бадзяга, вяпрук, рак, крамар, золата, але, ляснік, кіно, філіял.

Узнагароды – запісныя кніжкі – выйгралі: **Грышка Мартынюк** і **Эмілька Казлоўская** з Бельска-Падляшскага, **Аня Садоўская** і **Кася Бура** з Нарвы, **Кася Леанюк** з Гайнаўкі і **Марцін Мялешка** з Катоўкі.

**ВІНШУЕМ!**



Талон „Зоркі" № 18
5.05.1996

# Яшчэ раз аб еднасці хрысціян

Айцец Канстанцін Бандарук („Ніва" ад 21 студзеня 1996 г.) напісаў артыкул „Тыдзень малітваў аб еднасці хрысціян", які патрабуе абвяржэння. Раз епіскапы маўчаць, трэба нам, як праваслаўны тэолаг з праваслаўным тэолагам, спрачацца.

Галоўная памылка знаходзіцца ў сказе „**Тэолагі** могуць спрачацца пра дактрыны, аднак, хто мае слушнасць, ведае толькі Бог". Тут ненаўмысна а. Канстанцін апынуўся ў адным лагеры з атэістамі, якія прапаведуюць, што няма адной праўды, а калі б нават і была, то праўду немагчыма вызначыць. А Евангелле кажа, што даваць пашану Богу трэба якраз праз шуканне праўды і ў гэтым заключаецца сутнасць хрысціянства. Бога ніхто нідзе не бачыў, дык вось Адзінародны Яго Сын пра Яго расказаў. А першы псалом Давіда піша, што трэба ў „законе" чытаць *дзень і ноч*, інакш кажучы пазнаваць волю Божую безупынна, бо яна пазнаваемая. Паэт Адам Аснык напісаў:

Za każdym krokiem
W tajniki stworzenia
Coraz się dusza ludzka rozprzestrzenia
I *większym* staje się Bóg.

Дзеля гэтага сыпоў Святы Дух, які кіраваў чынамі арміі святых ды робіць гэта і далей. У першым стагоддзі не было іканастасаў і наогул храмаў, былі затое цуды. Было ўваскрэсенне памерлых. Трэба нам чакаць паўтарэння гэтай сітуацыі, але гэтага замала. У Евангеллі ад Іаана чытаем: „Хто верыць у Мяне, выканае такія самыя рэчы, якія Я раблю і ён выканае большыя рэчы, чым Я выканаў, бо Я іду да Айца Майго" (14: 12).

Маштаб часу у а. Канстанціна вельмі сціплы. Дыназаўры існавалі 100 мільёнаў гадоў таму назад, адзін кракаўскі вучоны вылічваў параметры адной каметы 40 гадоў, а я перакладаў 56 старонак літургіі св. Іаана Залатавуста... 12 гадоў. А тут чытаем: "Тэолагі могуць спрачацца **дзесяцігоддзямі**". Справа ў тым, што духоўныя акадэміі даюць студэнтам дзесяць разоў менш інфармацый, чым неабходна. Пакажыце мне выпускніка Хрысціянскай духоўнай акадэміі, які ведае на памяць Псалтыр у арыгінале, гэта значыць на стараяўрэйскай мове! Але і тут не трэба траціць надзеі.

Калісь у Варшаву прыехаў доктар Нікас Нісіаціс, супрацоўнік Сусветнай Рады Цэркваў у Швейцарыі. Ён (праваслаўны грэк і ідэолаг гэтай арганізацыі) лічыў, што „ўся хрысціянская дактрына змяшчаецца ва ўсіх адгалінаваннях хрысціянства **разам узятых**, а што з гэтай Праўды знаходзіцца ў каго, трэба памаленьку вывучыць". На пачатак усе члены СРЦ прынялі крэда (сімвал веры): „Веруем у Ісуса Хрыста, Збаўцу ў Святой Тройцы". Айцец Канстанцін недалёка ад думкі некаторых святароў, якія хочуць усякі экуменічны дыялог прывесці да такога вось агульнага назоўніка: давайце будзем супрацоўнічаць у дабрачыннасці і экалогіі і больш нічога. Гэта песімізм. Тут трэба працытаваць словы ўладыкі Васілія (Даражкевіча): „Нашы падзелы не дасягаюць неба".

Інфармацыя а. Канстанціна устарэлая: прага падпарадкаваць усіх Рыму была да часу II Ватыканскага Сабора, на якім пастанавілі, што чалавек можа збавіцца і ў праваслаўі. Vaticanum II быў вялікай перамогай Святой Апостальскай Усходне-Каталіцкай Царквы, бо такая назва ўжывалася да XIX стагоддзя. Перамога гэтая кранае супярэчныя пытанні, якія вырашыліся на карысць Царквы: 1) адкінулі латынь і далі перавагу нацыянальным мовам, 2) увялі канцэлябрацыю — магчымасць служыць літургію **супольна**, 3) увялі дыяканаў, 4) змянілі форму прастола, 5) выкінулі другое чытанне Евангелля з літургіі ды іншае. Ужо раней кожны ведаў, што праваслаўе і каталіцызм (апрача старакатолікаў) — самыя блізкія веравызнанні: усе такія ж сакраманты (таінствы), культ Багамаці ды апостальская сукцэсія (пераемнасць). Таму ў чэрвені 1995 г. папа рымскі на кангрэгацыі кардыналаў сказаў, што пачатак XXI стагоддзя будзе праходзіць пад знакам з'яднання праваслаўных і католікаў. Не шляхам фузіі ці абсорбцыі (словы з энцыклікі „Slavorum Apostoli"), а гэта значыць, што праўда будзе адкрыта не ў выніку галасавання, а ў выніку глыбокіх даследаванняў.

Мы ведаем, што адно кажа папа, а другое робіць епіскап Шымэцкі. Папа аддаў Супрасль, а епіскап заўпарціўся, быццам бы была ціхая схізма паміж Рымам і Варшавай. Але ж Праўда пераможа ў рэшце рэшт. Даследаванні, вось лозунг! Калі б кожны святар быў прафесарам, раз—два стала б менш веравызнанняў (вось так!). Можна ўявіць сабе такі вобраз: па праменнях сонца лезуць усе ў напрамку цэнтра і аўтаматычна аддегласць паміж імі *змяншаецца* (!).

Хаця маем „торжество православия", гэта не значыць, што няма чаго ў ім папраўляць. Перш за ўсё трэба вярнуцца да такой яго формы, якая была да рэвалюцыі ў Расеі, а пасля гэтага правесці селекцыю (якасць!) партытур, пахаў ладану, сэнсу пропаведзей, выгляду святароў. Для прыкладу, хто і дзе (сінод, сабор) пастанавіў, што святар можа не мець барады, вусаў, доўгіх валасоў. Чаму клікушы (дэвоткі) не крычаць: „Бачце, нашы святары сталі выглядаць як каталіцкія ксяндзы!" Чаму ад уніятаў прайшлі ў праваслаўе чорныя рызы (аблачэнні), якіх ніколі ў Царкве не было? Хто хоча ведаць болей, хай едзе ў Маскву да святара Віталія Баравога...

Айцец Канстанцін робіць упор на практычны падыход да веры, а гэта выглядае так, як бы хтосьці сказаў: „А мяне не цікавіць тэарэтычная хімія, а толькі пластмасавая сумка". Спачатку тэорыя, а пасля практыка. Прааналізуем цытату: (чалавек) „калі захоўвае ў сваім жыцці ўсё, што сапраўды хрысціянскае, дасягне святасці і збаўлення". Аўтар не мог пісаць такой агульнай фразы як „сапраўды хрысціянскае" без яе дэфініцыі, азначэння. Вось вам карцінка: цяжарная жанчына не раз пачула, што пост — гэта галоўная справа, ды давай пасціць. А ў Кіеве ў радзільнай клініцы парадак такі: калі нованароджанае дзіця не мае адпаведнай вагі і росту, яго пакідаюць без догляду, каб памерла. Хто тут вінаваты? Перш за ўсё **святар**, які на пропаведзі не падкрэсліў, што цяжарныя не павінны пасціць, але ж і жанчына не павінна абагатваць святара, які — вядома — цудаў не чыніць, а ў славян — духоўныя акадэміі гэта адна роспач.

**Падлік вывадаў.** Разуменне экуменіі айцом Канстанцінам Бандаруком не ёсць consensus omnium, гэта значыць, аднадумным пунктам погляду на справу ні ў маштабе Польшчы, ні Канстанцінопаля. Сатанізм ды камунізм баяцца палемікі, як д'ябал святой вады. Мінулы час гэта нам прышчапіў. Каб гэтага пазбыцца, трэба выкараніць кумаўство (неаб'ектыўнасць) і клерыкалізм, які дапускае, каб святар ставіў сябе вышэй Святога Пісання. Тут для здзіўленых чытачоў прапаную яшчэ адну неспадзяванку. У першых стагоддзях быў у горадзе Ліёне (Францыя) айцец Царквы, грэк, святы Ірыней, які прапаведаваў, што і ў нехрысціянскіх веравызнаннях дзейнічае Святы Дух. Гэта ўжо не экуменізм, але панэкуменізм.

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**

# З мінулага маёй сям'і, вёскі...

*(праця са стар. 1)*

цы паменшала і пабруднеда яна.

Нейкі кіламетр ад нашай вёскі з паўднёвага боку праходзіў калісьці бойкі тракт Нарва — Бельск-Падляшскі, які называлі ў нас гасцінцам. Божа ж мой, колькі мусіла прайсці і праехаць па ім народу, свайго тутэйшага і чужога?!

У часы санацыйнай Польшчы паміж Нарвай і Бельскам была пралажана шаша, якая якраз на нашай тэрыторыі перастала супадаць з гасцінцам, а пайшла крыху далей ад вёскі, каб зноў збегчыся з ім пры ўездзе ў вёску Белую. Наш адрэзак гасцінца надалей аставаўся на нейкі час дарогай, хаця амаль ніхто па ім не ездзіў цяпер. Толькі пасля правядзення камасацыі ў нашай вёсцы яго пачалі заворваць, ды так дакладна, што цяпер і следу па ім не асталося. Адзіны след па гасцінцы — гэта старэнькі, пахілы крыж на былым яго скрыжаванні з нашай „месцькай" дарогай.

Зліквідавана таксама некалькі іншых старых нашых дарог, як напрыклад, „скуосьніцю" і „зубуўськую" дарогі з Падгукавіцкага палетка і некалькі дарог з іншых нашых палеткаў. І хоць даўно ўжо гэтых дарог няма, але жывуць яны яшчэ ў маёй памяці...

На пераломе саракавых і пяцідзесятых гадоў нейкі чыноўнік рашыў, невядома чаму, аднесці нашу рэчку Локніцу крышку далей ад вёскі і выпрастаць яе, халеру, бо і на які чорт так пакруцілася. Уважылі значны капітал і некалькі гадоў рылі новае ложа. Выкапалі глыбокае і простае даўжынёй у некалькі кіламетраў рэчышча — няхай неразумная натура пабачыць як тэба праводзіць рэкі. У новай рэчцы забяспечылі берагі, парабілі парогі і пусцілі вадзічку. На застаўкі для рэгуляцыі ўзроўню вады грошай і ахвоты не хапіла. Так і асталося.

У старым рэчышчы вада стала стаячай і бруднай. Яно памаленьку зарастае зеллем і брудам, а ў новым рэчышчы вада даволі чыстая, але плыткая. Не спадабалася чамусьці новая рэчка і рыбе, і яна ўзяла і прапала. Адзіным плюсам гэтага шалёнага мерапрыемства было тое, што на нейкі час нашы людзі атрымалі магчымасць нейкага заробатку пры капанні рэчкі. Грошы ў той цяжкі паваенны час былі патрэбны моцна, а зарабіць іх тады не было дзе. Гэта там і тады нашы вяскоўцы пачыналі пазнаваць смак казённай працы і зарплаты...

*(працяг будзе)*

**Васіль Сакоўскі**

# Чытай і не кажы маме

**Адам Глёбус** зарабляе на хлеб прадукцыяй „працягаў" найбольшых хітоў англаамерыканскай літаратуры і пераўтварэннем папулярных фільмовых сюжэтаў у кніжкі з каляровай вокладкай і паўмільённым тыражом. Сам зарабляе і ўтрымлівае палову вядомага мне беларускамоўнага Менска, што заліваючыся потам піша па-руску тыя жамчужыны і завальвае бяздонны рынак ад маскоўскай Чырвонай плошчы па сопкі Маньчжурыі.

А свае кніжкі друкуе ў Польшчы. Тыражамі ў пяцьсот — тысячу асобнікаў. Яны адразу становяцца бібліяграфічнай рэдкасцю і прадметам пажадлівасці ўлюбёных у Глёбуса аматараў прыгожага беларускага пісьменства.

„Толькі не гавары маёй маме..."*) — другая, пасля „Дамавікамэрона", такая кніга. Склалі яе апавесці пра чалавечы пачуцці: першае каханне, лютасць, мужнасць, дзіцячыя страхі, лёгкае расчараванне, здзіўленне, гідкасці. Частка з іх друкавалася раней у „Нашай Ніве", а *іранічная аповесць* „Артэк" — у „Бярозцы". Толькі без некаторых падрабязнасцей, сярод якіх уражвае лагерная творчасць. Вось прыклад:

*Я спросил электрика Петрова:*
*„Почему у вас на шее провод?"*
*Ничего Петров не отвечает.*
*Тихий ветер труп его качает.*

Калі хто спадзяецца на эротыку ў гэтым „зборніку інтымнае паэзіі" — знойдзе цэлую яе гаму, ад цнатліва-наіўнага першага кахання па вычварныя забавы з гермафрадытам у амстэрдамскім публічным доме. Аднак эротыка, не самае галоўнае ў кніжцы. Яна займае не больш і не менш месца, чымсьці ў жыцці, якога Глёбус — першакласны назіральнік. І апісальнік.

Я любыя фрагменты магу перачытваць бясконца і кожны раз захапляюсь мяне старанна дапрацаваныя фразы, поўныя глыбокага сэнсу і, адначасна, дбайлівыя наконт дэталяў. Не перастаюць здзіўляць мяне Глёбусавы спасцярогі, аналогіі, параўнанні: „Я вельмі зграбна магу абабраць ківі. Беларус добра абірае ківі. Кожны беларус зь дзяцінства прывучаны абіраць бульбу, гэта нацыянальнае, гэта ў крыві, гэта вышэй за асобу, а таму нават тупаватым нажом я зграбна зрэжу варсістую скурку. Галяндцы таксама спрытна распраўляюцца з ківі. У іх таксама абіранье бульбы — старажытны нацыянальны спорт. І менавіта ў Амстэрдаме вісіць самая беларуская з усіх сусьветных карцін „Ядакі бульбы" Вінцэнта Станіслававіча Іван Гога".

Аповесці Глёбуса напісаныя ад першай асобы. Стрыжнем іх заўсёды з'яўляецца біяграфія аўтара. Гэта стварае своеасаблівую пікантнасць. „Жанчыны мяне папракаюць за дзьве рэчы, — піша Глёбус, герой *рамана пра лёгкае расчараванне* „Дарагі мой сябра Адам..."— пасьпешлівасць і напорыстасьць". Напорыстасць Глёбуса відаць хаця б у ягонай прыватнай вайне за вяртанне назвы Койданава і ігнараванні штучна прышчэпленай бальшавікамі — Дзяржынск. Ды яшчэ ва ўсаджванні шпількаў братняму расейскаму народу. Няма аповесці, у якой бы Глёбус не напісаў чагосьці накшталт: „А краем цывілізацыі ўяўляецца Санкт-Пецярбург — бедныя людзі, белыя ночы, бясконцыя карпусы заводаў, брудная рака Нява, стракаты Неўскі праспэкт, турма, пераўвасобленая ў музей, чучала тоўстага жандара-наглядчыка, Кунсткамэра, двухгаловы чалавечы зародак у слоіку з фармалінам, прыніжаныя да пакрыўджання".

Але і з самімі беларусамі не абыходзіцца занадта пяшчотна: „Я, зразумела, не залічваю сябе да так званых лепшых сыноў нацыі, а таму паводле маіх назіранняў нельга меркаваць пра ўвесь мой народ-пакутнік. Беларусы — пакутнікі. Яны заўсёды пакутавалі па розных цёмных кутках, і яшчэ яны пакутуюць на палітычную імпатэнцыю".

А так, між іншым, шкада, што пра беларусаў нельга меркаваць паводле паводзін Глёбуса ў Амстэрдаме (аповесць „Толькі не гавары маёй маме...") — пяцізорачны гатэль, сняданне з трохсот трыццаці трох страў, дыяменты, пацехі ў квартале чырвоных ліхтароў. Такой чыстай радасці жыцця не знойдзеце ва ўсёй беларускай літаратуры-пакутніцы. Можа яе парасткі ўбачыць здолеем толькі ў „Ладдзі роспачы" і „Блакіце і золаце дня" святой памяці Караткевіча.

**Мікола Ваўранюк**

*) А. Глёбус, *Толькі не гавары маёй маме...*, Менск 1995.

# Юрый Пераможца

... Юрый пададзены ў поўны рост. Апрануты ў латы, туніку, плашч, ён стаіць на пачвары і прабівае яе кап'ём. Характэрна, што пачвару майстар паказаў з чалавечым тварам і тулавам. Канкрэтнае антрапаморфнае аблічча, якое нададзена сімвалічнаму злу, умацняе эмацыянальнае ўздзеянне гэтай скульптуры, яе мастацкую выразнасць. Мяккае перацяканне аб'ёмаў надае пластыцы рухомасці, якая вызначае стыль барока. Прастата і выразнасць сілуэта, вялікая ўвага да перадачы характару персанажа і фактуры матэрыялу гэта ўласцівыя і своеасаблівыя рысы, характэрныя для помнікаў беларускага барока. Кожная дэталь скульптуры зроблена старанна, ювелірна, памастацку. Пластычна, мякка трактаваны складкі плашча, які пракінуты праз левае плячо і эфектна апускаецца збоку. Афарбоўка доспехаў добра імітуе матэрыял, падкрэслівае халодную цвёрдасць адпаліраванага да бляску металу. Твар Пераможцы поўны наіўнай непасрэднасці. Лёгкая асіметрыя надае адчуванне ўнутранага руху, робіць выраз эмацыянальна выразным.

Вобраз Юрыя Пераможцы даволі папулярны ў заходнееўрапейскім і рускім мастацтве. Мы можам прыгадаць жывапісныя палотны Рафаэля і Дзюрэра, Кранаха Старэйшага і Мантэны, скульптурныя групы Го–Нотке, М. і Д. Калажвары, статую Данатэла і шмат іншых работ. Паводле артадаксальнай жыційнай літаратуры, Юрый паходзіў з Малой Азіі, дзе належаў да мясцовай знаці і меў даволі высокі воінскі чын. У часы ганення на хрысціян Юрыя прымушалі адрачыся ад веры і ў рэшце рэшт адсеклі галаву [1]). Гэта надало яму арэол хрысціянскага пакутніка, і яго вобраз, як і Дзмітрыя Салунскага, Цірона, Фёдара Страцілата і іншых, пачаў успрымацца як вобраз нябеснага абаронцы „хрысталюбівага" воінства, а часам і князёў. З яго вобразам фальклорная традыцыя звязала язычаскую абраднасць вясновых жывёлагадоўчых культаў. Як вядома, хрысціянскія святыя не толькі замянілі язычаскія божаствы, але і



*Юрый Пераможца. Дрэва, разьба, яечная тэмпера, сярэдзіна XVIII ст. Дзяржаўны мастацкі музей Беларусі.*

ўспрынялі іх функцыі. Да Юрыя перайшлі функцыі язычаскага „скацiннага бога", на Беласточчыне, Беларусі лічылі яго заступнікам свойскай жывёлы, асабліва коней. Існаваў нават звычай, паводле якога раніцай 23 красавіка, у Юр'еў дзень косці, што засталіся ад Вялікадня, загортвалі ў абрус, бралі соль і хлеб і абыходзілі засеянае поле, утыкалі па яго рагах косці, прымаўлялі: „Святы Божа, святы Еры! Захавай ніўкі ад граду". Затым хлеб елі і маліліся, „каб Бог ласкавы і святы Еры сцераглі жывіну".

... Каля горада, у вялікім балоце, пасяліўся змей-людаед. Каб ён быў літасцівы, яму час ад часу аддавалі на з'ядзенне юнакоў і дзяўчат. Надышла чарга і на дачку гаспадара горада. Але якраз у гэтых мясцінах пабываў Юрый, які хацеў напаіць свайго каня і набраць сіл у далейшую дарогу. Спаткаўшы дзяўчыну ў слязах і дазнаўшыся, чаго яна плача, Юрый вырашыў чакаць змея. У цяжкай бітве перамог яго, вярнуў дачку шчаслівым бацькам. Юрый выступае тут як волат-асілак. Паступова яго вобраз ператвараецца ў сімвал перамогі дабра і справядлівасці над усялякім злом.

Казачнае, фантастычнае паданне дае неабмежаваную прастору для творчай фантазіі жывапісцаў і скульптараў. Блізкая духу народных уяўленняў, духу фальклору гэтая тэма набывае цікавую і адметную інтэрпрэтацыю ў скульптуры „Юрый Пераможца" невядомага майстра, выяўленай у Полацку ў пачатку стагоддзя (да 1912 г.). Скульптура экспануецца ў Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі ў Менску.

Нягледзячы на дробнасць формы, старанную ўвагу да кожнай дэталі, майстар пазбег халоднасці, здробненасці вобраза. Ён здолеў перадаць вялікую жыццёвую энергію, высакароднасць Юрыя — бездакорнага рыцара.

**Івона МАРЦІНОВІЧ**

[1]) С. Аверинцев. *Георгий // Мифы народов мира.* Москва, 1987. Т. I, с. 274.

# Іконы і варвары

Іконы гэта фрагмент Святога Пісання, дзе словы заступаюць сімвалы і колеры. Іконы пішацца і чытаецца. Мову іконы разумеюць толькі тыя, якія яе вучыліся так, як кожнай іншай мовы. Не напіша яе хтосьці адарваны ад хрысціянскай традыцыі. Можа стварыць знакаміты мастацкі твор, які аднак іконай не будзе.

Дошка з выяўленнем святых, хаця і з'яўляецца прадметам, але мае сваю душу. Так яе сэнс успрымаюць вернікі ў цэрквах нават тады, калі не разумеюць значэння сімвалаў, якія яна прадстаўляе. У свядомасці праваслаўных некаторыя іконы мелі цудадзейную моц, не раз вырашалі пра лёс гарадоў, дзяржаў, манастыроў, а часам народаў. Стагоддзямі праваслаўны народ славіць Пачаеўскую ікону Божай Маці, акая абараніла манастыр і горад ад татарскай няволі. Перад іконамі веруючыя стаюць на калені, шукаюць суцяшэння ва ўсялякіх няшчасцях, праз іх пасрэдніцтва звяртаюцца да Бога. Каб звярнуць увагу на ідэі, якія прадстаўлялі іконы, некаторыя выяўленні святых упрыгожвалі дарагімі металамі і камянямі.

У 1917 годзе ўлада на тэрыторыі праваслаўнага Усходу апынулася ў руках бальшавіцкіх варвараў. Мелі яны сваіх багоў, літургічную літаратуру, прарокаў. Стварацьіх іконы вымушаны былі дзесяткі тысяч мастакоў, рэжысёраў, фатографаў ды іншых артыстаў. Усё тое, што стваралася стагоддзямі, стала раптам непатрэбным, варожым, помнікам іншай традыцыі. Каб стварыць новага верніка камунізму, трэба было знішчыць усё, што напаміналa хрысціянскую спадчыну. Пасля сямідзесяці гадоў усялякіх эксперыментаў, асталося трохі цэркваў, шмат святыняў служыла бальшавікам як месцы для танцаў ці гаспадарчыя склады. Іконы аднак, якіх сотні да 1917 г. знаходзіліся ў кожнай царкве, у большасці былі знішчаны. Шмат аднак вернікі цішком вынеслі ў свае дамы. Пры канцы васьмідзесятых гадоў камуністы вырашылі спыніць гэтае дзікунства, якое прывяло да занападу традыцыйнай маральнасці. Савецкі чалавек, пачуўшы свабоду, кінуўся карыстацца ёю, не звяртаючы ўвагу на ніякія святасці, ні этычныя бар'еры, якія рэгулююць жыццё цывілізаванага грамадства. Зарыентаваўся ён, між іншым, што ікона ў іншым свеце мае вялікую вартасць як прадмет, як твор мастацтва. Свабода дала яму шанц стаць уласнікам чужой валюты, якая цяпер адкрывала дарогу да дабрабыту, улады і яшчэ большай свабоды. Вязе тады савет на захад усё, што можна там прадаць, у тым ліку старыя Евангеллі, залатыя крыжы, літургічныя прадметы і дзесяткі тысяч ікон. Невялікая частка гэтай кантрабанды трапляе ў рукі мытнікаў. Іконы, каб лепей схаваць іх перад кантролем, паасобныя „турысты" раздзяляюць на кавалкі. Сарганізаваныя банды вязуць цэлыя іканастасы. Святасці, якія з набожным страхам цалавалі вернікі ў цэрквах Беларусі, Расіі, Украіны ляжаць цяпер на базарах сярод парашкоў, цвікоў, цыгарэт ды іншага смецця.

19 красавіка ў Беластоцкім музеі ў Ратушы была адкрыта выстаўка ікон, ахвяраваных гэтай установе мытнымі службамі. Амаль чатырыста адабраных савецкім і польскім „турыстам" ікон у двух апошніх гадах гэта невялікая частка таго, што вывезена было з Усходу. На адкрыццё выстаўкі прыйшло каля двухсот прадстаўнікоў усялякіх беластоцкіх культурных устаноў. Пілі віно, прыглядаліся нават уважліва культурнай спадчыне праваслаўя, якая з цэркваў трапіла на базары і ў музеі. Іконы былі пісаны не для іх. Беластоцкія гледачы мову ікон не разумелі. Бачылі толькі творы арыгінальнага мастацтва.

Праўдападобна праз нейкі час адродзіцца цывілізацыя, якая разумее мову ікон і адчайна пачне шукаць свае скарбы ва ўсім свеце. Каб вярнуць іх назад, трэба будзе заплаціць у дзесяткі разоў больш, чым цяпер атрымліваюць савецкія людзі на базарах Еўропы.

**Яўген МІРАНОВІЧ**

P.S. Выстаўку ікон у беластоцкай Ратушы можна глядзець да канца мая.

# Festiwal dla mniejszości

Centrum Sztuki — Teatr Dramatyczny w Legnicy na przełomie sierpnia i września stanie się forum mniejszości narodowych i grup etnicznych zamieszkujących Polskę, inne kraje europejskie i pozaeuropejskie.

W mieście, gdzie od lat mieszkają obok siebie Polacy, Ukraińcy, Żydzi, Łemkowie, Cyganie, Grecy, Macedończycy, gdzie mówi się różnymi językami, gdzie zachowały się elementy rozmaitych kultur, gdzie stoją świątynie rzymsko-katolickie, prawosławna, protestanckie, wyznania mojżeszowego, odbędzie się Festiwal Mniejszości Narodowych i Etnicznych **„Europa bez granic"**. Będzie to jedyny tego typu festiwal na naszym kontynencie. Od tego roku, każdego lata, przez kilka dni Legnica będzie gościć zespoły folklorystyczne z różnych krajów. W pierwszych koncertach wezmą udział zamieszkujący Polskę Ukraińcy, Niemcy, Żydzi, Cyganie, Łemkowie. Przyjadą polskie zespoły z Litwy, Białorusi, Czech. Centrum Sztuki — Teatr Dramatyczny zaprosiło też Rusinów Baczmańskich z byłej Jugosławii, Basków z Hiszpanii, Szkotów, Lapończyków, Kałmuków, Czukczów. Zespoły koncertować będą nie tylko w Legnicy, ale też w wielu innych miejscowościach naszego województwa, Dolnego Śląska, w perspektywie w przygranicznych miastach Niemiec.

W festiwalu weźmie udział ponad tysiąc gości. Koncertom towarzyszyć będą: seminarium na temat powojennej sytuacji mniejszości narodowych w Polsce, wieczór literacki z ich przedstawicielami, wystawa fotograficzna i ekspozycja wydawnictw poświęconych mniejszościom narodowym.

Patronat nad festiwalem objęło Ministerstwo Kultury i Sztuki i Wojewoda Legnicki.

**Krystyna NIKOŃCZUK**

# Радзіма — Родзіна

**Частка XLVIII**

Даволі многа месца прысвяціў Янка Міхалюк лёсу беларускай нацыі і беларускай мове пад саветамі. Прыводжу сёння тыя фрагменты яго прызнанняў, якія адносяцца да гэтага пытання:

„Бачыце, так яно сталася ў нашым жыцці, што мы страцілі і малую, і вялікую айчыну і апынуліся як бы на крыжэ пасярод акіяна. Мы як бы разбіткі без роднага краю. І бачыце, дзякуючы такім людзям як біскуп Сіповіч і айцец Аляксандар мы разам стварылі тут і малую, і вялікую Беларусь.

Бачыце, было яно на Беларусі ад вякоў так, што шырылася нянавісць паміж пасобнымі рэлігіямі. Каталікі ненавідзелі праваслаўных і мусульманаў, мусульмане ненавідзелі праваслаўных і каталікаў. Праваслаўныя не любілі каталікаў і мусульманаў. А яшчэ ж былі і жыды, і баптысты, і вуніяты, і ўсе ўзаемна не любіліся і трактавалі сябе як ворагаў. Ну і калі б мы тут у Ангельшчыне захавалі тую непрыязнь, што выступала ў нас ад вякоў, то мы ўсе тут згінулі б, ад нас следу не засталося б. Бо вядома, што беларусы каталікі пайшлі б у польскі касцёл і сталіся б палякамі, беларусы праваслаўныя пайшлі б у рускую царкву і сталіся б рускімі. І бачыце, тут і біскуп Сіповіч і айцец Аляксандар нам безупынна тлумачылі, што так не павінна быць пасля вайны. Бачыце, калісь то беларусы ехалі на захад або ў Амерыку таму, што іх гнала туды бяда, нястача хлеба. А тыя, што тут паявіліся пасля другое сусветнае вайны, то папалі па палітычных прычынах. Вядома, што і мы таксама думалі аб хлебе, але не толькі. Думалі мы і аб палітыцы. Яднаў нас заўсёды страх перад Сталінам і перад камунізмам. Большасць з нас то тыя, хто былі ў польскай арміі ў 1939 годзе і папалі ў савецкі палон. Ну то яны на ўласнай скуры пераканаліся, што гэта такое савецкі рай. Бачыце, саветы добра ведалі, што калі пакінуць жыццё вёскі з усімі мясцовымі традыцыямі, звычаямі і моваю, то заўсёды стуль, з тых, як вы кажаце, малых радзімаў дух будзе перакідвацца і на ўсю Беларусь, гэта значыць будзе фармавацца і характар вялікае радзімы. От яны і прыдумалі калектывізацыю, атэізацыю, русіфікацыю. Мы тут, прыглядаючыся да Беларусі здалёк, усё гэта зразумелі і трэба сказаць, што біскуп Сіповіч і айцец Аляксандар памаглі нам гэта зразумець. А праваслаўныя духоўныя то таксама пайшлі гэтай дарогай. Практычна то ў кожным казанні, на кожным сходзе, у часе кожнага шлюбу, хрысціны ці паховін гаварылася ў нас аб адным і тым самым, аб захаванні Радзімы па-за радзімай. От гэта і трымала нас пры беларускасці. Скажу, што не ўсе людзі вытрымлівалі без Беларусі. Некатерыя выступалі публічна і гаварылі, што трэба пагадзіцца з савецкаю ўладаю і вяртацца ў Беларусь. То вы ведаеце, што гаварыў заўсёды біскуп і айцец Аляксандар? Не, не думайце, што яны нападалі на такіх людзей ці іх страшылі. Яны такім асобам заўсёды гаварылі: едзь у Беларусь і паглядзі. Ну, вядома, што яны так гаварылі ўжо пасля таго, як Хрушчоў здэмаскаваў Сталіна і людзям не пагражалі лагер і смерць. І што вы думаеце? У тых людзей, што паехалі і паглядзелі, то як рукой аднімала ўсякую ахвоту вяртацца ў Савецкую Беларусь. Усе, вярнуўшыся, у адзін голас гаварылі: у Беларусі няма Беларусі. Прымітыўны атэізм, калгаснае ўбоства, русіфікацыя, мацерышчына. Вось, што бачылі і чулі на роднай Беларусі. А найгоршае то ведаеце што? Алкагалізм, беспрасветны алкагалізм. Ну а якое там можа быць нацыянальнае жыццё ў народа, які дзень і ноч п'яны? Я вам скажу, я не асмеліўся паехаць у Беларусь. І то не таму, што баяўся, што мяне арыштуюць, але таму, што не хацеў быць сведкам таго, як гіне мая вялікая і малая радзіма. Я мог бы не вытрымаць, калі б пабачыў, як мае родныя, сваякі, суседзі чахнуць у вёсцы і як „наслаждающца" расейшчынай. Магло б не вытрымаць маё сэрца, от таму і не еду і, мабыць, не паеду. Буду трымацца гэтай нашай Беларускай Радзімы, якую мы тут стварылі ўсе разам і вуніяты, і праваслаўныя, і каталікі".

**Алесь БАРСКІ**

**Якія мы людзі**

# Юбілей

Абапіраючыся на кіёчак, старая патупала да дзвярэй на сваіх хворых нагах, як толькі пачула званок у дзверы.

Бабе Тані даўно ўжо пераваліла за восемдзесят і, лічыла яна, пара ўжо ёй ляжаць у зямлі. Зяцю, хаця ўсяго на пяць гадоў маладзейшаму, яму што? Высокі, статны, усё бягом ды бягом — ні дождж яму не страшны, ні халадэча.

А бабе ці ж так лёгка жывецца? Хадзіла па хаце з кіёчкам, памыла часам посуд, а так усё больш ляжала. Здароўе аддала сваім унукам, даччыным дзецям у малым мястэчку, а дажываць да смерці забрала вось яе другая дачка — бяздзетная — у цёплую гарадскую кватэру, з гарачай вадой і туалетам.

* * *

Лежачы цэлымі днямі ў ложку, старая думала-перадумвала сваё нялёгкае, але і цікавае жыццё. Купалася ў масле, калі была дзяўчынай. Выйшла замуж за багатага гаспадара. Хутар, вялікі мураваны дом, шмат зямлі. Заўсёды трымалі некалькіх парабкаў да працы каля хаты і ў полі. Магла б так цяжка не рабіць, маючы пяцёра дзяцей, мо сёння лепш бы сябе адчувала... Але ці ж магла яна сядзець, злажыўшы рукі, калі нават яе дзеці, прыязджаючыя з гарадскіх школ на канікулы, рабілі ў полі, быццам парабкі.

Прыйшлі ў трыццаць дзевятым саветы. Яе гаспадар, стоячы на панадворку ў гумоўцах, убачыў рускага капітана. Капітан разглянуўся навокал ды пытае: „А помещик где?"„Вот я и есть помещик", — адказаў гаспадар.

Увайшлі ў хату, а там — прыгажосць. „А эти персидские ковры у вас откуда?" „Дык гэта ж я сама, дзеткі, выткала! Якія ж яны персідскія!" — пакрыўдзілася бабка. „Ну да! — глянуў на яе з недаверам капітан. — А эти картины, что на стенах висят, тоже сами рисовали?" „Не, гэта работа нашых дзяцей..."

Капітан быў ашаломлены. Кінуў вокам на ўсё гэта яшчэ раз і прыцішаным голасам параіў: „Ну, ты, хозяюшка, лучше эти картины со стены сними! Так будет спокойнее..."

У сорак першым прыйшлі немцы. А ў іх было тры дачкі. Пачаў наведвацца да іх малады немец. Маладосць прагнула жыцця, а не смерці.

Уначы на хутар наведваліся партызаны. Нарыхтоўвалі ім ежу — у лесе ж многа не пажывішся. А, зрэшты, і адмовіць ім дапамогі не было як. Нехта данёс пра гэта нямецкаму начальству ў мястэчку.

Усю сям'ю — першы быў гаспадар — паставілі пад сценку камендатуры, а хату з усім дабыткам спалілі. Стаяць яны пад сценкай, дрыжаць ад страху падруламі нямецкіх стрэльбаў. Першы, як камень, паваліўся бацька. Таня была наступная. І... раптам сталася нешта, як у фільме. Заскрыгаталі тармазы легкавой машыны, і выскачыў з яе знаёмы нямецкі афіцэр, які наведваў Таніных дзяўчат: „Што вы робіце, гэта ж не партызаны, я іх ведаю!"

Было ўжо аднак позна. Яе гаспадар ляжаў нежывы, а хата дагарала, калі вярнуліся на свой хутар.

Чаго чалавек не перажыве! Жылі ў зямлянцы да канца вайны; дзякуй Богу, што засталася кароўка. А пасля вайны неяк паставілі дом у мястэчку і ўсе дзеці павывучваліся, здабылі прафесію.

* * *

Усё жыццё бабы Тані было чэснае і працавітае.

Праўда, засталіся ў яе некаторыя „панскія" манеры. Хлеб прывозілі бабцы аж з горада. Усе елі хлеб з мясцовай пякарні, а яна не магла: убачыла калісь, як у іхняй пякарні чалавек мясіў цеста, а пот з яго ілба капаў проста ў дзежку. Бабка ненавідзела неахайных людзей і гультаёў. А цяпер сама апынулася на ласцы дачкі і зяця. Праўду сказаўшы, ужо абрыдла ёй глядзець на гэты свет адно з вакна пятага паверха. Цешылася, што заўтра ў хаце будуць госці, бо зяцю якраз спаўнялася восемдзесят гадоў і мелі святкаваць гэты юбілей. Старая наогул любіла, калі нехта заходзіў у хату, і з радасцю, без стогну, падалася ў бок уваходных дзвярэй.

* * *

Бабка ледзь не паваліласся, — дзякуй Богу ўтрымаў кіёчак, — калі стаячая за парогам жанчына-лістаношка накінулася на яе са сваімі абдымкамі. „Віншую вас, бабуля, з васьмідзесяцігоддзем! Гэта вы — юбілярка?"— сказала прышпоўшая і падала ёй віншавальную тэлеграму. „Не, не я!" — сурова адрэзала бабка Таня. „А хто?"— пацікавілася лістаношка. „Зяць!" — старую пачынала ірытаваць нахабнасць чужога чалавека.

„Што вы гаворыце! У вас такі стары зяць?!" — цягнула жанчына. — „Каму стары, каму не стары, дзеткі!" — бабка сваім целам загарадзіла ўваход на кухню, куды з цікаўнасцю старалася заглянуць лістаношка.

Цяжка было ёй дзівіцца, бо з кухні даносіліся цудоўныя пахі страў, якія рыхтавала прыехаўшая ў госці зяцева дачка.

„Як у вас смачна пахне! — пасланка з тэлеграмай, на гэты раз далікатна адхіліўшы кволую бабулю, увайшла на кухню. — Ой, колькі вы тут усяго наварылі ды напяклі!" Не пытаючыся дазволу, пасланка ў нясвежай вопратцы гопнулася на табурэтку, што стаяла ля кухоннага стала, якраз побач залітага карпа, які яшчэ не зусім застыў.

„Рыбку ўжо залілі?! Ага... шкада. Дык можа б я нешта іншае перакусіла?!" — заглянула ў вочы ўнучцы лістаношка.

„Мо я вам дам пірага з чаем?" — спыталася тая ў недаўменні. „Ну што вы, навошта адразу пірог, пірага не трэба! Мне б далі кавалачак вунь таго мяска — і годзе", — лістаношка паказала пальцам на прыгожую залацістую шынку, што красавалася, толькі што выцягнутая з духоўкі, на падваконніку.

„Паслухайце, я ж тут сама не гаспадыня, а госць. Неяк не выпадае пачынаць без гаспадыні", — засумнявалася падчарыца бабулінай дачкі.

„А вы вазьміце збоку, не будзе відаць!" — лістаношка ўжо паставіла перад сабой талерачку і ўзяла ў рукі відэлец, глытаючы слінку.

Бабка Таня адвярнула галаву, каб нават і не бачыць тае дурноты, якую рабіла ўнучка, адразаючы гэтай незнаёмай бабе салідны кавалак шынкі. „Хлябца папрашу", — напомніла „госця", і тая хутка адкроіла ёй дзве лусты хлеба.

Бабулі мо і няўцям было, што ўнучка хвалюецца яшчэ больш за яе, бо работы было — непачаты край.

„Салатку, пэўна, ужо зрабілі, — не здавалася смакошка. — Мне во каб крышку сюды, на талерачку, каля мяска. Ну, і добра, вось пад'ем і пайду. Ой, хадзіць яшчэ сёння! Праца мая, самі ведаеце, сабачая. Наганяецца чалавек, а што з таго мае... Змучыцца, у роце перасохне. Выпіць штосьцяка ў вас знойдзецца?"

„Вам мінеральнай?" — унучка схапілася за бутэльку.

„Ой, што вы! Я мінеральнай не п'ю! Мне б крыху чагосьці мацнейшага прыдалося. Адразу б на ногі паставіла!"

Бабка Таня глянула на ўнучку з незадаволеннем, калі тая выцягнула з шафкі бутэльку гарэлкі.

„А каньячку не маеце?!" — здзівілася лістаношка і, пакуль дачка юбіляра шукала іншую бутэльку, адсунула пастаўлены кілішак і выняла сабе з шафы шклянку: „Не маю часу піць кілішкам!"

Як толькі гаспадыня падала каньяк, яна схапіла тую бутэльку і бухнула з яе сабе поўную шклянку. Выпіла адным духам, а паколькі ўжо някепска пад'ела, дык і не адразу яе разабрала. Смакуючы пірог, гэта жанчына неакрэсленага ўзросту пачала наракаць, што жыццё вельмі цяжкое. „Вам, бабуля, добра тут у цяпле сядзець, нічога не робячы, а я вось, як сабака, мушу ганяцца ад двара да двара... Наліце яшчэ з паўшкляначкі!"

Бабка Таня, якая ўвесь час маўчала, гледзячы на тое, што дзеецца, не вытрымала: „Дык за тое ж вам і плоцяць!" Адвярнулася і выйшла з кухні.

Лістаношка ізноў наліла сабе каньяку, выпіла, хукнула і, калышучыся ўжо ад сцяны да сцяны, пайшла працаваць далей.

Юбілей пачаўся.

Ада Чачуга

# „Ніва" на раздарожжы

Уважліва прачытаў я артыкул Яўгена Мірановіча п.з. „Міхасю дзякуем за памяць" у 12-м н-ры „Нівы", дзе аўтар дзякуе Міхасю Шаховічу за яго з'едлівы тон у ацэнцы колішняй і сённяшняй „Нівы". Наш пачэсны паэт М. Шаховіч у сакавіцкім нумары „Часопіса" хваліць час дыктатуры і камунізму, а ганіць цяперашнюю свабоду, хаця гэта свабода пяра ў нас яшчэ пад запытальным знакам. Верыўшы словам Шаховіча, можа здацца, што калісь „Ніву" амаль вырывалі з рук і так лёгка яна ішла ў падпісцы і продажы ды была аж такая цікавая, што і не адарваць вачэй. А сённяшняя, гэта ўжо „бруковец". Амаль усе „заслужаныя" члены БГКТ так сцвярджаюць і плююць на „Ніву". Таксама камуністы тое ж чыняць і, як правіла, „Ніву" ў рукі амаль не бяруць. Хаця рэдакцыя іх выхвальвала да неба і на першай старонцы заўсёды быў партрэт нейкага сакратара партыі або іншага начальніка. Я ўжо 31 год працую пісьманосцам і магу некалькі слоў сказаць, як гэта „лёгка" ішла „Ніва". Тады была толькі адна падпіска газет і я з прызвання сэрца падпісваўся (і надалей гэта раблю) на „Ніву" і то на год — тады гэта каштавала ўсяго 28 злотаў. У мяне было 250 падпісчыкаў, а сёння не ў сілах гэта зрабіць, бо штодзённа ў нашу пошту прысылаюць для продажу 30—40 розных газет, на якіх амаль няма пастаянных чытачоў. Я надалей падпісваю і прадаю найбольш „Нівы" на ўсю акругу. Было больш такіх лістаношаў, нават узнагароды нам за гэта давалі; калісь — не сёння. Сёння мала хто з пісьманосцаў працуе на роднай ніве і распаўсюджвае сваю газету сярод людзей. І калісьці былі ў „Ніве" разумныя і здольныя журналісты, і ёсць і сёння. Але былі і нецікавыя, аднабаковыя падлізнікі і, на жаль, яны і сёння не зваліся. Як будзе далей „Ніва" трымацца, гэта залежыць у першую чаргу ад нас. На БГКТ няма чаго спадзявацца, хаця Мікола Ваўранюк напісаў аграмадны артыкул-інтэрв'ю „Я марыла служыць беларускай справе" пра дзяячку Тамару Русачык. Я і іншае чуў пра гэту патрыётку. І навошта займаць цэлую старонку! Чуў я ўжо галасы, што калі М. Ваўранюк будзе пісаць падобныя кавалкі, дык чытачы не будуць у мяне купляць „Ніву". Людзі бачаць, дзе праўда.

Мікалай Панфілюк

# „Лекары"

Сцяпан жыў сам на хутары пасярод поля, нейкіх сто метраў ад вёскі. Усе яго сыны жылі ў вёсцы.

Калі памерла яго жонка Ніна, дзеці і ўнукі прасілі, каб пакінуў стары дом і пайшоў жыць да аднаго з сыноў.

— Не, — запярэчыў стары, — не пакіну я дома. Дзе нарадзіўся, ажаніўся, дзе вас выгадаваў і адкуль усіх у людзі адправіў, там і памру.

Сцяпан быў некалі добрым столярам. Цяпер рэдка хто прасіў, каб зрабіў акно або дзверы. Мо таму, што быў стары, а мо проста таму, што ў людзей няма цяпер замнога грошай.

Аднойчы старэйшы сын Антось прывёз і пакінуў бацьку матэрыял, каб той зрабіў яму новыя дзверы і вокны да летняй кухні. Два дні пазней, корпаючыся ў сваёй майстэрні, пачуў стары, што едзе нейкі самаход.

— Пэўна Антось едзе сваім „малюхам", — падумаў. — Ад вёскі да мяне недалёка, але падэшваў здзіраць не хоча, то і едзе самаходам.

Выйшаў на панадворак і ўбачыў самаход з замежнай прапіскай. Сядзела ў ім чатыры мужчыны і адна жанчына. Перад брамай самаход затрымаўся. Выйшла трое: два мужчыны і жанчына.

— Кім вы будзеце? Чаго вам трэба? — спытаў стары.

— Мы лекары, — адказала жанчына, — прыехалі пабачыць, як жывяце і ці не хворыя. Ідзем у хату.

Сцяпан адразу падумаў, што гэта нейкія ашуканцы, аднак не было выхаду — павёў іх дадому.

Адзін мужчына астаўся ў сенях, другі з жанчынай увайшлі ўсярэдзіну і адразу пачалі ўсё пільна аглядаць.

— Як вы так жывяце, што нічога ў вас няма? Пенсію атрымоўваеце? — спытала жанчына.

— Маю пенсію сыны забіраюць, а я хаджу да іх есці.

— Агледжу, ці не хворыя вы, такія вы худыя, — сказала. Падышла да старога і пачала абмацваць, ці няма дзе кашалька з грашыма. Калі не знайшла, нервова прыкусіла вусны:

— Навошта аддаеце сынам усе грошы?

— Стары я, — сумна адказаў Сцяпан, — і яны што хочуць, дык тое з імі і робяць.

„Лекары" злосныя пакінулі дом і паехалі. А Сцяпан чым хутчэй пайшоў у вёску і ўсім людзям расказаў пра нашэсце гасцей, якія „вылечваюць" ад грошай.

Аўрора

## ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

**5 мая**

1818 г. — нар. Карл Маркс, нямецкі філосаф.

1819 г. — нар. кампазітар Станіслаў Манюшка.

1821 г. — памёр Напалеон Банапарт, французскі імператар.

1912 г. — у Ст.-Пецярбургу выйшаў першы нумар „Праўды”.

1949 г. — у Лондане заснавана Раду Еўропы.

1961 г. — першы палёт у космас амерыканца Алана Шэпарда на борце касмічнага карабля *Mercury-3*.

1981 г. — пасол у брытанскі парламент, баявік ІРА Бобі Сандс памёр у астрозе пасля 66 дзён галадоўкі. Пасля яго памерла яшчэ 8 яговых таварышаў.

**6 мая**

1527 г. — *Sacco di Roma*, грабеж Рыма салдатнёй нямецка-іспанскага караля Карла V закончыла эпоху рымскага Рэнесансу.

1854 г. — прапрэм’ера оперы „Травіята” Джузепе Вердзі ў Венецыі.

1856 г. — нар. Зігмунд Фрэйд, аўстрыйскі лекар, заснавальнік псіхааналізу.

1861 г. — нар. Рабіндранат Тагор, індыйскі паэт.

1926 г. — памёр асветнік Казімір Сваяк.

1987 г. — у паўночна-ўсходнім Кітаі ўспыхнуў вялікі пажар тайгі. Выгарэла каля мільёна гектараў лесу і загінула 197 чалавек.

1994 г. — афіцыйнае адкрыццё тунеля (50 км.) паміж Англіяй і Францыяй.

**7 мая**

1954 г. — капітуляцыя французскіх войск пад Дзьенб’енфу ў В’етнаме.

**8 мая**

1429 г. — французскія войскі пад камандаваннем Іаанны д’Арк апанавалі Арлеан.

1828 г. — нар. Анры Дзюнан, швейцарскі філантроп, заснавальнік Чырвонага Крыжа.

1985 г. — канцэрн „Кока-кола” змяніў склад свайго напітку на саладзейшы. У выніку масавых пратэстаў рашэнне адменена.

1987 г. — немец Мат’яс Руст прызямліўся на Чырвонай плошчы ў Маскве.

**9 мая**

1936 г. — Італія анексіравала Абісінію (Эфіопію).

1945 г. — адмірал Карл Дэніц выдаў прыказ безагаворачнай капітуляцыі нямецкіх войск.

1994 г. — Нэльсан Мандэла, першы негр у 342-гадовай гісторыі краіны абраны прэзідэнтам ПАР.

**10 мая**

1906 г. — першае пасяджэнне расейскай Думы.

1933 г. — на Опернай плошчы ў Берліне нацысты спалілі каля 20 тыс. кніжак „прасякнутых ненямецкім духам”.

1940 г. — уваванне нямецкіх войск у краіны Бенілюкса.

**11 мая**

330 г. — Канстанцін Вялікі назначыў Канстанцінопаль новай сталіцай Рымскай імперыі.

482 г. — нар. Юсцініян Вялікі, візантыйскі кесар.

1904 г. — нар. Сальвадар Далі, іспанскі мастак.

1990 г. — у Лумумбашы (Заір) сілы дзяржбяспекі забілі больш за 50 студэнтаў, якія пратэставалі супраць рэжыма прэзідэнта Мабуту. **(Ш)**

## ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Снілася мне нейкае вяселле. А пасля такая сітуацыя: мой унук прадае цыганам майго малодшага ўнука, бо не мае грошай, каб заплаціць падатак за гаспадарку. Што можа абазначаць гэты сон? **Іванка**

Даражэнькі Астроне! Мне прысніўся сон пра маіх калег з працы. Адна сяброўка была ў хаце майго сябра, у якога нядаўна памерла жонка, і мыла ў яго падлогу. І так ужо шаравала тую падлогу, так шаравала цвёрдай шчоткай... А падлога была брыдкая, драўляная, са шчылінамі і дзіркамі. Відаць было, што гаспадар сам рамантаваў яе і нeяк няроўна, неахайна заляпіў дзіркі цэментам.

Я кажу сяброўцы: „Перастань ты ўрэшце чысціць тую падлогу!”, а яна ўсё сядзіць і дзярэ яе. **Геня**

Іванка! Твой сон гаворыць пра тое, што будзе нейкая сварка, а прынамсі непаразуменне (вяселле). Здарыцца нейкае ашуканства (мо твой унук падманіць цябе, бо прадаў цыганам малодшага брата). Сварка вынікне, бадай, з-за нейкіх гаспадарчых спраў.

Геня! Твой сон сведчыць пра няўхільную смерць у некага з тваіх калег: ці ў сяброўкі, якая мыла падлогу ў калегі, ці ў калегі, у хаце якога гэта адбывалася. Даруйце, міленькія, мне, старому. **Астрон**

## ПАРНАСІК

### Кілішак

Выпіў кілішак, выпіў два,  
Не хапае дня.  
П’еш цэлы вечар —  
Зваліў цябе вецер.  
І ты заснуў пад сталом  
Справядлівым сном.  
Сніліся табе чэрці,  
Жадалі скорай смерці.  
Ты прачнуўся аднака.  
Ты — чалавек-небарака.  
Паправіцца варта;  
І паўтараецца ўпарта.  
Бо хочацца піць.  
А думка: як жыць?  
У цябе праз гáру заглохла,  
Таксама замоўкла.  
У канцы стол абаблюеш  
І пасля мо на сябе злуеш,  
Што паступіў як свіння апошняя,  
Хаця і не паросная.  
Мала таго — табе рукі свярбяць,  
Каб некага адлупцаваць.  
І калі штосьці не так,  
Дык ты калегу па галаве — бах!  
І тады лаянка, драка;  
Ты ізноў небарака.  
Бо цябе злупцавалі  
І сведкаў пазвалі,  
Што ты цішыню парушыў.  
Бараніць цябе ніхто не рушыў  
І падалі цябе на калегію ці суд.  
І гэта ўжо не цуд.  
Уляпілі штраф, што ў галаве  
закруцілася  
І ніколі не снілася.  
І заплаціў „гаротнае” або адбыў  
у астрозе  
Толькі таму, што жывеш у бярлозе.

**Мікалай Панфілюк**

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову Музея. Ахвяраванні на пабудову Музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4597. Ян Тапалянскі (Нарва) | — 40,00 зл. |
| 4598. Валянціна Міцэвіч (Дашы) | — 10,00 зл. |
| 4599. Інакенцій Сідарук (Гайнаўка) | — 30,00 зл. |
| 4600. Альжбета Вярбіцкая (Гайнаўка) | — 10,00 зл. |
| 4601. Уладзімір Іванюк (Вітава) | — 10,00 зл. |
| 4602. Ахвяраванні настаўнікаў беларускай мовы, сабраныя ў час канферэнцыі 27 сакавіка 1996 г. | — 85,24 зл. |
| 4603. Ахвяраванні настаўнікаў нямецкай мовы, сабраныя ў час канферэнцыі 30 сакавіка 1996 г. | — 24,00 зл. |
| 4604. Алена Таболіч (Беларусь, Менск — ганарар за артыкул у „Ніве” н-р 5/96) | — 8,00 зл. |

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. (0-835) 30-16.

## Народны каляндар

6 мая. Юрыя.

**Юрыя, Юр’я, Юрай, Ягорый** — старадаўняе свята беларусаў у гонар заступніка жывёлы і гаспадаркі Юрыя (Георгія), які ў часы хрысціянства замяніў язычніцкае славянскае бажаство вясенняй урадлівасці і плоднасці жанчын — Ярылу.

На свята аглядалі нівы, абыходзілі палі з караваем.

**Прыкметы.** На Юр’я густы дождж — жыта ўродзіцца густое, буйное, калі дождж толькі „крапіць”, то лета будзе багатае на траву. Калі вада ў рэчцы прыбывае да Юр’ева дня, то лета будзе гарачае, з даждамі неўпару.

### Юраўская песня

А Юр’ева маці,  
Божа мілы!  
Па небе хадзіла,  
З Юр’ем гаварыла:  
— А Юр’ю мой, Юр’ю,  
Падай Пятру ключы  
Зямлю адамкнуці,  
Траву выпусціці,  
Статак накарміці.  
Людзям на здароўе,  
Ліху безгалоўе.

### Веснавая песня

— Хадзіце, дзевачкі, у лес гуляці.  
Зялёных вянкоў завіваці.  
— А мы ўжо вяночкі завілі  
І гарэлачку папілі.

Закукуй, зязюля, закукуй!  
Нямнога табе кукаваці —  
Ад Вялікадня да Пятра  
Ды ад чыстага чацвярга.

Запісаў **Янка Целушэцкі**

## Віраванка



1. горад між Беластокам і Гродным, 2. вельмі шкоднае субтрапічнае насякомае, 3. знак прыпынку, 4. лоўля рыбы, 5. дабро, 6. калядныя песні, 7. чучала ў выглядзе чалавека для адпуджвання птушак, 8. частка кнігі, 9. начальнік пекла, 10. зварот, які патрабуе адказу, 11. чарада варон, 12. від тканкі пазваночных жывёл. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, разыграем кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 10 н-ра:**

**Гарызантальна:** пакора, Лугана, Данецк, Кіпр, Сена, аўтастрада, цуда, лада, Тракай, мікрон, варона.

**Вертыкальна:** палякі, рада, Луцк, навіна, недастатак, праўда, седала, цунамі, даліна, трон, айва.

Кніжныя ўзнагароды высылаем: **Тамашу Байко і Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

**Ніва**

**„Niwa”**

ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: „ORTHDRUK”, Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1996 r. upływa 5 czerwca 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## У кіпцюрах цецерука

## Бюро аб'яў

Калі бярэш у рукі пятнічны выпуск нейкага „Кур'ера", не лайся і не наракай. Праўда, паперы там толькі, што можна было б надрукаваць карту СССР з усімі калгасамі і найменшымі нат пасёлкамі, а чытаць апрача дробных аб'яў няма чаго. Усё-такі не наракай. Наша эпоха пяройдзе ў гісторыю і непрыхарошаныя распрацоўкі навукоўцаў, але яны, штодзённыя аб'явы будуць крыніцамі ведаў пра нас і наш час. У бюро аб'яў працую ўжо паўстагоддзя, таму і ведаю, што гавару.

Дакладна помню свайго першага кліента. Высокі, стройны бландзін, гадоў пад дваццаць пяць хілком зайшоў у мой пакойчык і адварочваючы твар, мо ад сораму, а мо ад прыроднай сабе нясмеласці, папрасіў замясціць кароткае апавяшчэнне: „Пяць гадоў у АК памяняю на тры дні ў АЛ". Помню таксама выразна Сізіфа Іванавіча, гаспадара з-пад Сямятыч, які пасля доўгай, беспардоннай вайны з калгаснымі прапагандыстамі замясціў у нашым бюро адчайную аб'яву: „Гару памяняю на ніжэйшую, або прадам". Пяцідзесятыя гады пайшлі ў нябыт, а дзяўчыны, сыходзячы з трактароў, накіроўваліся прама пад вянец. Іхнія хлопцы, адкідаючы ў кутох афіцэркі і галіфэ, апранаілі цёплыя шлёпанцы ды зусім цывільныя нагавіцы. Рэвалюцыйныя песні пачалі ўступаць з дарогі калыханкам, а ўчарашнія бунтаўшчыкі пачыналі мэбляваца.

Наведваў нас тады часценька адзін бяздомны актывіст, Юдым яго звалі, калі добра помню. Замяшчаў гэты чалавек разоў ці не дваццаць кароценькую аб'яву: „Дом куплю". Потым перастаў сюды заходзіць, а знаёмыя гаварылі, што і сапраўды купіў ён нейкую трохпавярховую вілу ў цэнтры горада.

У сямідзесятыя гады людзі зажылі ўжо дастатней, хіба з гэтай прычыны ў дробных аб'явах паказалася сытая мяшчанская манатоннасць. У бясконцасць паўтаралася адна-адзіная аб'ява „Воз памяняю на візу. Држымала-малодшы".

Дэкаду восьмую адкрывалі аб'явы падзячныя: „Праметэям усіх краін шчырае дзякуй" (якраз туд-сюд гарэлі будынкі партыйных камітэтаў), а закрывалі перапрашальныя: „Пралетарыі ўсіх краін, прабачце. Маркс". Пасярэдзіне была вялікая цішыня, толькі час ад часу нехта прапаноўваў: „Стары самаход за цану двух новых", а фабрыка стырапору (styropianu) абяцала даць працу ўсім ахвотным.

Як не глядзі, найбольш прадукцыйнымі ў аб'яўнай творчасці аказаліся нашыя дзевяностыя гады. Сэрца расце, калі адкрываем любую газету і чытаем: «Капітал» перакоўваем у капітал. Суполка Наменклатура". „Суполка «Бяспечная будучыня» аб'яўляе банкруцтва". „Касандра на пост прэс-сакратара патрэбная. Апазіцыя". Аднак найцікавейшая аб'ява дайшла да маіх рук учора. Калі за акном бюро прыпынілася элегантная, цёмна-сіняя „Лянчыя", я адразу ведаў, што здарыцца нешта цікавае. Цераз хвіліну вадзіцель, аднолькава элегантны як і яго машына, быў ужо ў пакойчыку і зажадаў надрукаваць такую вось аб'яву: „Някемлівым аб'ясняю, што абрэвіятура V.I.P. абсалютна не абазначае ВЫПІЎ І ПАЕХАЎ. Пасол Пляшка Ян".

Сёння а гадзіне дзевятай зайшоў у маю кантору высокі, стройны, лысы як месяц у поўні, мужчына. Адварочваючы твар, мо ад сораму, а мо ад прыроднай сабе нясмеласці, папрасіў замясціць кароткае апавяшчэнне: „Пяць гадоў у АЛ памяняю на тры дні ў АК". Нешта знаёмае прыкмеціў я ў яговых сініх вачах, усёткі пытаць у лысага, ці калісьці быў ён бландзінам я не асмеліўся.

Думаю, пара мне ўжо на пенсію.

**Міхась АНДРАСЮК**

## Наша пошта




NY 258 New York




## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Рассеяны прафесар пытае сакратарку:
— Ці былі вы ўчора ў тэатры?
— Не, пан прафесар, вечар правяла ў ложку.
— Ну, так, так. Ну і як — многа людзей там было?

* * *

— Што маю зрабіць, каб пахудзець? — пытае Маруся сяброўку.
— На тваім месцы не хадзіла б так часта на дыскатэкі...
— А што — танец поўніць?
— Не, толькі сядзенне.

* * *

Пасажырскі лайнер пераплывае каля малой выспы, па якой скача і вымахвае рукамі доўгавалосы, барадаты мужчына, апрануты ў шматкі адзення.
— Што гэта за чалавек? — пытае адна прыгажуня капітана.
— Гэта нейкі псіх! Ужо пятнаццаць гадоў ён, быццам нейкі добры знаёмы, скача і махае да нас рукамі, калі праплываем каля гэтай выспы.

* * *

Набожны ксёндз памёр і трапіў у чысцілішча. Даведаўся там, што яго прыхаджанін Зэнак, шафёр па прафесіі, трапіў у рай. Пакрыўджаны ксёндз напісаў скаргу да святога Пятра.
— Няма тут ніякай памылкі, — напісаў у адказ святы Пётр. — Калі ты адпраўляў імшу, то людзі спалі, а калі Зэнак вёў аўтобус, то ўсе маліліся.

* * *

— Якая розніца між ксяндзом і паліцыянтам?
— Калі чалавека выводзіць паліцыянт, то ёсць яшчэ надзея, але калі выводзіць ксёндз, то ўжо няма ніякай.

* * *

Паліцыянт вярнуўся з адпачынку ў Закапаным.
— Ну і як, прыгожа там? — пытаюць сябры.
— Цяжка сказаць, горы ўсё закрываюць.

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка! Што рабіць, парай! Я зусім перастала верыць мужчынам. Каля года таму я пазнаёмілася ў сяброўкі на імянінах з прыемным хлопцам, які быў, аднак, значна старэйшы за мяне. Мы пачалі хадзіць.

Трэба табе ведаць, Сэрцайка, што я яшчэ вучуся ў школе. Мне 16 гадоў, а яму — 25 і ўжо ён заканчвае універсітэт. Нягледзячы на розніцу ў гадах, хлопец мне вельмі падабаўся. Быў вельмі інтэлігентны, начытаны, ну, і прыгожы. Месяц нашага знаёмства мінуў так хутка, што я і не агледзелася. Правялі мы яго цудоўна: хадзілі на дыскатэкі, ездзілі на рэчку з сябрамі, сустракаліся ў кавярнях. Пачаліся якраз канікулы. Мы ўсюды абніманіся і цалаваліся — саромецца ж не было чаго. А пасля хлопец запрапанаваў сустрэцца ў яго, бо бацькі выехалі на тыдзень да сваякоў. Што было рабіць? Мэта, дзеля якой ён мяне запрасіў, была аж занадта ясная. А я ж яму казала: усё — толькі не ложак. Я яшчэ ніколі з хлопцам у пасцелі не была і не збіралася рызыкаваць, бо ўсё ж можа здарыцца. А мне ж яшчэ ліцэй трэба канчаць. Пра замужжа ў нас ніколі нават гаворкі не было. Адным словам, я далікатна сказала, што прыйсці не змагу. Хлопец абразіўся на мяне, але на наступны дзень ізноў пачаў тую ж гаворку. Я другі раз неяк выкруцілася. Развіталіся даволі холадна.

У хаце нешта мне не давала спакою. Быў ужо вечар, і я вырашыла пазваніць хлопцу, каб хаця пагаварыць з ім. У трубцы я пачула музыку і дзявочы голас сказаў: „Proszę!" Я адлажыла трубку, але не знаходзіла сабе месца. Набрала яго нумар другі раз. Думала, што першы раз была памылка. Ізноў — музыка і той жа чароўны голас: „Proszę mówić!" Мне стала моташна.

Сказаўшы бацькам, што мне трэба на хвіліну выйсці, я накінула нешта на сябе і выйшла з дому. Схапіла таксі і... паехала да майго хлопца. Проста не ведала, што я раблю. Быццам нейкі аўтамат. Розум падказваў: не едзь, сядзі дома! Сэрца ж свідравала думка: ідзі і пагляндзі!

Хлопец не думаў, што я прыеду да яго. Мо лічыў, што мой гонар мне не дазволіць. Але зразумей, Сэрцайка, я мусіла праверыць, што гэта за дзяўчына пацяшае майго хлопца ў той час, калі я сядзела ў хаце. Вельмі здзівіўся, калі ўбачыў мяне на парозе, але не перапужаўся, упусціў мяне ў хату. Пазнаёміў з дзяўчынай, якая была ў яго. У мяне пасохла ў горле. Якраз яны пілі каву, хлопец прынёс кубачак і мне. Гаварылі аб нічым, я маўчала.

Дзяўчына была апранутая, але паводзіла сябе надта свабодна. Яшчэ крыху пагаварылі, і я пачала разумець, што гэта яго былая дзяўчына. Так, ён сапраўды расказваў мне пра яе. Аднаго толькі не сказаў: што так цалкам ён з ёю не парваў, што сустракаюцца надалей. Прынамсі яна не хавала сваіх пачуццяў да яго. Пры гэтым была сімпатычная ў адносінах да мяне. Відаць было, што і пра мяне ён ёй расказваў. Невядома толькі, што. Але я прыйшла да вываду, што прадставіў мяне як звычайную сяброўку, якіх у яго шмат. І таму тая дзяўчына была мілая ў адносінах да мяне. Глядзела, як на нейкую сімпатычную дзяўчыну, якая „бегае" за яе хлопцам. Мне хацелася крыкнуць, што ён мяне, а не яе кахае, што гэта са мною ён сустракаўся штодзень, мяне цалаваў і абнімаў. Нічога я, аднак, не сказала, апрача слоў: „Мне пара!"

Хлопец сказаў той самаўпэўненай дзяўчыне, што зараз вернецца, і выйшаў са мною. Правёў мяне на прыпынак, цмокнуў у шчаку на развітанне. Нічога не тлумачыў мне, але я і так не сумнявалася, што тая дзяўчына застанецца ў яго нанач... Ад таго часу ў нас усё сапсавалася.

**Эля**

Даражэнькая Эля! Усё выглядае на тое, што ён з той дзяўчынай ніколі не парваў адносін. Занадта самаўпэўнена яна паводзіла сябе ў яго хаце. І была сімпатычная ў адносінах да цябе, не была зайздросная, як у адносінах да суперніцы. Відаць, лічыла цябе яшчэ замаладзенькай.

Хлопец хутчэй за ўсё запрасіў цябе, каб уразнастайніць сабе жыццё. Калі б не меў нікога, дык хлопец у яго ўзросце запрасіў бы цябе дахаты раней.

Ты меркавала, наіўная, што ты ў яго адзіная і непаўторная, а хлопцы любяць мець поспех у не адной дзяўчыны. Сама ж кажаш, што пра замужжа вы ніколі не гаварылі. Мо і добра, што ты яму не накідаешся. Табе яшчэ вучыцца і вучыцца.

**СЭРЦАЙКА**